УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

Літаратурны клуб «Экватар»

У альманах «Літаратурны экватар» уключаны творы як прафесійных, так і пачынаючых аўтараў. Усе яны – удзельнікі літаратурнага клуба «Экватар», які ўзначальвае беларускі паэт Вячаслаў Корбут.

Укладальнікі *Вячаслаў Корбут, Інга Вінарская*
Шэф-рэдактар *Інга Вінарская*
Уступны артыкул *Вячаслава Корбута*





***Да вяршыняў духоўных здабыткаў***

Новы нумар альманаху выходзіць, па традыцыі, напрыканцы літаратурнага года, калі ў творчых суполках падводзяць вынікі, раздаюць прэміі – ад Нобелеўскіх да Дзяржаўных, альбо прыватнага характару, – у выдавецтвах пішуцца планы на наступны год.

Наш літаратурны клуб «Экватар» складае свой штогадовы альманах з лепшых твораў сваіх сяброў, што створаны пад уплывам альбо нашых паседжанняў, альбо творчых задумаў і асаблівага стану натхнення. За прайшоўшы год была наладжана праца сайта (распацаваў Яўген Вермут), праведзены цікавыя выступы, некаторыя сябры клуба ўдзельнічалі ў розных літаратурных конкурсах і есць здабытыя перамогі (Раіса Паўлючук). Таскама важна адзначыць, што некаторыя нашыя аўтары здолелі выдаць свае кнігі, і іх творы сталі ў некаторай ступені здабыткам нашай беларускай культуры. Гэта Людміла Лазута, Галіна Мішнева, Раіса Паўлючук, Жана Хромава, Святлана Шашко, Мікалай Будзішэўскі, Валеры Скакун і іншыя. Такім чынам, клуб «Экватар» прынцыпова стаіць на пазіцыях творчага росту аўтараў, надання ім магчымасцей развіваць уласныя таленты і больш дасканала разбірацца ў літаратуры як у мастацкім сродку. Так што, шлях да вяршыняў духоўных здабыткаў мае сёння ў працятым, як ніколі, наскрозь матэрыялізмам свеце важнае значэнне.

Зараз можна канстатаваць, што літаратурны клуб «Экватар» стаў сапраўдным цэнтрам культурнага развіцця асобы, дзе творчы чалавек мае мажлівасць знайсці сябе ў тым ці іншым літаратурным амплуа. Гэта наглядна паказвае кожны нумар альманаху, не выключэннне і гэты чацверты нумар, які выходзіць у год, калі наш народ адсвяткаваў 70-годдзе Перамогі. Для нашых аўтараў менавіта патрыятычная тэма стала важкай і найбольш блізкай. Тут не трэба забываць і той момант, што наш клуб вядзе патрыятычную работу ў беларускіх узброеных сілах, дзе праводзяцца насычаныя па змесце і тэматыцы выступленні. Пасля кожнага выступу вайскоўцы маюць мажлівасць прачытаць на старонках альманахаў творы тых, хто чытаў са сцэны свае вершы, альбо граў на гітары ці спяваў добрую песню. Таму асаблівая падзяка бібліятэкарам, у тым ліку кіраўніку бібліятэкі ЦДА В.А. Паўлаву.

Актыўна ўдзельнічалі ў такіх канцэртных праграмах клуба Ірына Цуканава, Святлана Шашко, Валеры Скакун, Вера Лебядзеўская, Ігар Грыцкоў, Аляксандр Чуро, Кацярына Мяшкова, Яўген Вермут, Дзмітрый Марозаў, Аляксандр Марозаў, Вера Феактыстава і іншыя. У наш час вельмі важна набліжаць мастацкае слова да простага чалавека, бо існуе пагроза зашлакоўвання мыслення асобы ад вынікаў маскультуры, якая часам акрамя забаўляльных сюжэтаў і фарміравання спрошчанага мыслення нічога не нясе. Таму тэма любові да Айчыны, тэма вернасці роднаму слову і свайму краю, тэмы сяброўства і кахання для могіх аўтараў сталі важкімі і надзвычай блізкімі. І творы нашых аўтараў можна пачытаць у гэтым нумары і адчуць іх глыбіню і незвычайную цеплыню пачуццяў.

Асабліва хачу закрануць нашых аўтараў, якіх па тых ці іншых прычынах няма ў гэтым нумары альманаху. Так сваімі шчырымі і натхнёнымі творамі імкнуцца здзівіць сваіх калег Аляксандр Марозаў, Мікалай Багачоў, Наталля Якімава, Таццяна Беланогая, Вячаслаў Макуць, Валянціна Шпілеўская, Іван Пыка, Таццяна Барысюк, Артур Чумасаў, Генадзь Руткевіч і іншыя.

Важным аспектам работы клуба стаў творчы падыход аўтараў да тэматычнага выбару і якасці зместу напісаных твораў. Павялічваецца адказнасць творцаў да таго матэрыяла, з якім яны працуюць, таму ўжо ў альманаху можна канстатаваць выбраны самыя змястоўныя і насычаныя эмацыянальна і мастацкімі вобразамі творы. Што можна падкрэсліць, агучваючы творчыя вынікі  гэтага года, што з’явіліся новыя  творчыя арыенціры і спробы жанрава  ўзбагаціць свой творчы багаж.

Аналізуючы гэты нумар альманаху, трэба адзначыць,  што шэф-рэдактар выдання Інга Вінарская адабрала найбольш моцныя творы і правяла пэўную працу па ўдасканальванню дызайнерскай часткі альманаху. Мы маем мажлівасць атрымаць на сённяшні дзень прыстойны і шматгранны літаратарны прадукт, адчуць асалоду ад прачытання цікавых твораў аўтараў, якія ўклалі ў іх свой талент розум, творчы дух. Творы, прадстаўленыя ў альманаху, надрукаваны на беларускай і рускай мовах, і кожны твор нашых аўтараў нясе асэнсаваную нагрузку і мае пэўны духоўна-культуралагічны код. Так, па традыцыі, свае вершы прадставілі чытачам Інга Вінарская, Вячаслаў





Данілаў, Валеры Скакун, Вольга Бацяноўская, Апанас Бацяноўскі, Ала Шыковіч, Вера Феактыстава, Святлана Шашко-Шаблінская, Дзмітрый Марозаў, Яўген Вермут, Аляксандр Чуро, Вікторыя Маладцова, Мікалай Будзішэўскі. Гэта ўжо даволі напрактыкаваныя аўтары, некаторыя з іх ужо стала працуюць у літаратуры, нехта з іх прайшоў літаратурную школу ў нашым клубе. Творы ўсіх гэтых аўтараў насычаныя вобразамі і цікавымі думкамі.

Упершыню свае паэтычныя творы надрукавалі на старонках альманаху Клаўдзія Вераб’ёва, Вера Лебядзеўская, Кацярына Мяшкова, Лідзія Поляк, Наталля Радзькова, Марыя Разумко, Валянціна Шведаў. Гэта сур’ёзныя і вельмі ўважлівыя да паэзіі творцы. Таму ў паэтычным плане альманах наведалі па-свойму цікавыя і самабытныя аўтары, кожны з якіх мае права на ўвагу.

Празаічны набытак гэтага нумару альманаха не ў першы раз папоўнілі Якаў Анапрэенка, Ігар Грыцкоў, Людміла Лазута, Іван Лосікаў, Юрый Мельнікаў, Галіна Мішнева, Раіса Паўлючук, Людміла Сівалобава, Жана Хромава. Гэта ў большасці спрактыкаваныя празаікі, ў многіх ёсць ужо выдадзеныя ўласныя кнігі і пэўны вопыт літаратурнай працы, асабістыя поспехі і публікацыі ў іншых выданнях.

Таксама трэба звярнуць увагу і на тых, чые празаічныя  творы друкуюцца ў нашым альманаху ўпершыню. Гэта Аляксандр Змушко, Тэрэза Кавальчук, Ірына Цвіркоўская, Ірына Цуканава. Кожны з гэтых пісьменнікаў ужо здольна і змястоўна працуе на ніве літаратуры і ўзбагаціў гэты нумар сваімі разнапланавымі і ўдумлівымі творамі.

Падводзячы вынікі гэтага артыкула, магу дадаць, што наш літаратурны клуб «Экватар» імкнецца развівацца прадуктыўна ў бок прагрэсіўнай і духоўна насычанай літаратуры, што сведчыць пра працяг традыцій нашай роднай беларускай літаратуры і літаратур блізкіх нам народаў у кантэксце лепшых здабыткаў сусветнай і еўрапейскай класічнай паэзіі і прозы.

*Кіраўнік літаратурнага клуба «Экватар»,*
*паэт, пісьменнік, журналіст, Вячаслаў Корбут.*

**ЯКАЎ АНАПРЭЕНКА**

*Нарадзіўся 6 студзеня 1952 года ў вёсцы Грушнае Брагінскага раёна. Педагог, філосаф, псіхолаг, дэпутат, адзін з заснавальнікаў Партыі народнай згоды, супрацоўнік Службы бяспекі Штаба XXII Алімпійскіх гульняў, удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, лаўрэат Міжнароднага конкурсу ўрада КНДР, аўтар навуковых прац па праблемах сацыяльнай псіхалогіі, беларускамоўных дэкалогіі (10-томнага збора твораў) «Эклектыка», пенталогіі (гісторыка-біяграфічнага 5-томніка) «Сінопсіс», раманаў, эсэ, аповесцяў фальклорна-этнаграфічнай тэматыкі. Мае дзяржаўныя і ведамасныя ўзнагароды. Хобі: ігра на кантрабасе.*

## КАЛІ Я НАРАДЗІЎСЯ

### Чынапаследаванне

Таінствамі называюцца такія свяшчэннадзействы, у якіх з асобай сілай дзейнічае Божая Благадаць Святога Духу і якія найбольш важныя ў духоўным жыцці хрысціяніна. Таінствамі з’яўляюцца: Хрышчэнне, Мірапамазанне, Прычашчэнне, Пакаянне, Шлюб, Ялееасвячэнне і Свяшчэнства. Калі да таінства Хрышчэння далучаецца таінства Мірапамазання, разам яны складаюць адзінае чынапаследаванне.

Таінству чынапаследавання я быў падвергнуты ў падпольных для атэістычнай дзяржавы абставінах. Мне хутка два гады, а яшчэ не прыняў хрысціянства. Добра хаджу, бегаю, размаўляю, ваджуся з іншымі людзьмі, а яшчэ не хрышчоны. У Грушным ужо ўсе ў такім узросце былі падвергнуты свяшчэннадзейству.

Святара знайсці было нялёгка. Але ж баба Мар’я, па ўзгадненню з іншымі бацькамі нованароджаных дзяцей і дваюраднай сястрой Евай Дзям’янавай, наведала вёску Чамярысы. Са святаром Кандратам былі абмеркаваны тэрмін, месца і абставіны правядзення рытуалу. Вырашана было правесці Хрышчэнне і Мірапамазанне ў маленькай хаце Кірычэнкі Хартона Іларыёнавіча і яго хваравітай жонкі Тэклі Паўлаўны на ўскраіне вёскі Грушнае. Уся сям’я лічылася жабрацкай, аб чым афіцыйна было засведчана ў калгаснай гаспадарчай кнізе. Хоць хатка і несамавітая, нязграбная, але ж большасць грушэнцаў пасля вайны была хрышчана менавіта тут. Хартонава сястра Мартос Вера Прохараўна, вельмі набожная маленькая жанчынка, якая з сынам Мікалаем пражывала з імі разам, сваёй постаццю і аблічам згорбленай артадаксальнай манашкі прыцягвала да рэлігійнага рытуалу. Тут часцяком збіраліся жанчыны, каб суаднесці свае дзеянні з Божымі настаўленнямі. Напаўсляпы разважлівы старац Хартон, у перапынках паміж жабрацкімі паходамі па навакольных вёсках, тут за грошы ці за ежу праводзіў рытуалы варажбы на хлебе, даваў парады хадакам, як засцерагчы жывёлу або дзяцей ад хваробы. Ён разумеў псіхалогію набожных жанчын і не губляў магчымасці заработаць на іх даверы.

Такім чынам, месца і дата правядзення чынапаследавання былі вызначаны. Святара Кандрата народ любіў за душэўную прастату, шчырасць, безадказнасць і тонкае пачуццё гумару. Ён быў святаром немаладым, але любіў гумар, часцяком жартаўліва дазваляў сабе невялікія вольнасці ў адносінах да маладых жанчын. А якраз такой маладой, ды яшчэ прывабнай, ды яшчэ і незамужняй, была менавіта Ева, якая яму спакусліва падміргвала і вачыма падавала шматзначныя гарэзлівыя знакі. Хоць святар і абмежаваны саноўным статусам, ён усё ж запомніў гэту гарэзлівую свавольніцу.

Па папярэдняй паміж усімі бакамі дамоўленасці, маім пасажоным бацькам быў запланаваны Ветчанка Васіль Іванавіч, пасажонай маці – вельмі прыгожая і выхаваная мясцовая маладая жанчына Еўдачэнка (потым яе прозвішча стала Грэкун) Ніна Іванаўна, пасажонай бабай – Гракун Кацярына Іванаўна (яе ласкава ўсе называлі «баба Каця»). Перш чым куміцца, будучыя хросныя разаслалі на ложку кажух поўсцю ўверх, на яго паклалі штаны майго бацькі (менавіта штаны бацькі, таму што нарадзіўся хлопчык, які, калі падрасце, стане мужчынам і будзе, як і бацька, насіць штаны). На штаны палажылі мяне, пакачалі трохі. Затым кум і кума на кажух паклалі па адной манеце – прыкмета шчасця – і панеслі мяне хрысціць.

…Святар жвава саскочыў з воза і дзелавіта зайшоў у Хартонаву хату. Некалькі чужых дарослых і дзяцей засталіся на вуліцы, а зацікаўленыя асобы, паважліва павітаўшыся са святаром, пайшлі следам. Тут сярод шматлікіх абразоў і немудрагелістай мэблі сямігадовы Верын сын Матрос Коля на правах гаспадара даваў парады малодшым прысутным, дзе каму і як патрэбна стаяць. Чынна стаялі мае бацькі – тата Грыша і мама Галя – побач з пасажонымі Васілём Іванавічам, Нінай Іванаўнай, бабай Кацяй і павітухай Евай Дзям’янавай.

– Гасподзь наш Ісус Хрыстос сказаў: «Калі хто не народзіцца ад вады і Духа, не можа ўвайці ў Царства Божае, – пачаў святар. – Тым самым Ён ясна ўказаў на неабходнасць Таінства Хрышчэння для чалавека, які жадае ўвайсці ў Нябеснае Царства і быць там у вечнай радасці з Богам. У пацверджанне Сваіх слоў Ён Сам прыняў Хрышчэнне ад Іаана Прадцечы ў водах Іардану…»

Пасля чытання спецыяльнай малітвы і памазання асвячоным маслам святар «хрысціў» («абмыў») мяне трохкратным пагружэннем у асвячоную Благадаццю Святога Духа ваду і сказаў пры гэтым:

– Хрысціцца раб Божы Якаў ва імя Айца, Амінь, і Сына, Амінь, і Святага Духа, Амінь.

У гэты момант пад уздзеяннем Благадаці Святога Духа ўся мая фізічная і духоўная сутнасць змянілася, я нарадзіўся ў новай якасці: мяне наракні імем Якаў, усе здзейсненыя мною да Хрышчэння грахі Бог дараваў, да маёй душы для аховы быў прыстаўлены Ангел Божы.

Потым святар прыступіў да Мірапамазання. Гэтае свяшчэннадзейства з удзелам Благадаці Святога Духу цягнулася нядоўга. Калі ён мазаў мірам мне лоб, ноздры, вушы, губы, грудзі, рукі і ногі, працэдура мне вельмі спадабалася, я шчыра рагатаў, а калі ён гаварыў: «Пячатка Да́ру Духа Святага,» – я трымаў рукамі і зацікаўлена разглядваў крыж з цэпам на шыі святара: я многае ўжо разумеў – мне ж у хуткім часе павінна было споўніцца два гады.

У таінстве Мірапамазання я займеў паўнату Благадаці як Дар Святога Духу.

Шрамянок Ева Дзям’янава, карыстаючыся асабістым знаёмствам са святаром-схімнікам, ужываючы сваю прывабнасць, падміргнула і, жадаючы сканфузіць яго, спытала:





– А што такое «Пячатка Да́ру Духа Святага»? – і азірнулася на людзей: ведай, маўляў, мы тут умеем не толькі ў пасталы абувацца, паспрабуй адказаць на простае пытанне.

Святар інстынктыўна таксама падміргнуў ёй (ён даўно заўважыў гэтую спакусніцу), але своечасова стрымаўся і сур’ёзна адказаў:

– Пячатка – гэта знак Таго, Каму мы належым. Дух Святы ў Мірапамазанні дадзены дзіцяці як Дар Бога для поўнага асвяшчэння хрісціяніна пры ўваходжанні яго ў Царкву…

Было гэта ў аўторак 4 лістапада 1953 года.

А ў нядзелю 9 лістапада здзейсненае таінства суправаджалася абрадам хрысцін, на якія былі запрошаны блізкія сваякі. Дзед Якаў у Брагінцы налавіў рыбы, баба Аксіння прыгатавала ежу, а баба Каця прынесла ў гліняным гаршку кашу для частавання майго бацькі. Бацька, як гэта было заведзена з даўніх часоў, для агульнай пацехі вілачнікам, якім у печ ставяць гаршкі, бы незнарок разбіў на стале пачастунак; гліняны гаршчок акуратна раскалоўся, а на стале засталася стаяць, быццам той жа гаршчок, духмяная, жоўценькая каша. Пад усеагульны смех бацька адламаў кавалак кашы, знарок паморшчыўся, быццам яна нясмачная, а затым прызнаў яе здатнай і заплаціў бабе Каці грошы.

Усе прысутныя таксама паспрабавалі гэтую дзіўную ежу, і кожны шчыра цешыўся асалодай. Ніхто ў вёсцы не мог прыгатаваць кашу лепш, чым гэта рабіла баба Каця.

**Парсюка закалолі**

Вучоныя кажуць, што ў старажытным Рыме калядамі называлі першы дзень кожнага месяца. У мяне ж з гэтым словам звязаны іншыя ўспаміны. Калі я быў малы, то ад старых людзей чуў пра тое, што ў даўніну людзі свіней у хлявах не трымалі, а проста пакідалі іх свабодна пасвіцца недалёка ад вёскі, зрэдку за імі прыглядваючы, і толькі на Каляды заманьвалі найбольш адкормленых у за́гараду, каб забіць і загатаваць смачную ежу.

Памятаю, ці то перад Калядамі, ці перад Хрышчэннем мае бацькі штогод выконвалі доўгачаканы рытуал забівання адкормле-

нага за год парсюка. Распрацаваны дзедамі і прадзедамі працэс яго забою выконваўся метадычна, акуранта, не спяшаючыся. У першапачатковай стадыі непасрэднага забойства бацька ўдзелу не прымаў, таму што баяўся віску «няшчаснай ахвяры». Але яшчэ вечарам ён дамовіўся з тым, хто заўтра прыйдзе «рэзаць». Бацька старанна гатаваў швайку і драўляны колік для затыкання дзіркі, каб не вылівалася кроў, і яшчэ звячорак клаў іх на лаўцы ў сенцах. У сянніку ўжо падрыхтаваў салому для смалення. Папярэдне паспрабаваў «градусны» магарыч...

Назаўтра зранку ў прыцемках, імкнучыся не разбудзіць дзяцей, мама і баба Аксіння завіхаліся каля печы: грэлі ваду, гатавалі посуд. Але ж і я ўстаў раней звычайнага, бо памятаў, што і мне ў гэтым працэсе адведзены адметны ўчастак: неаднойчы прыходзілася трымаць вяроўку, замацаваную да нагі парсюка, каб ён часам не дрыгануў дзядзьку са швайкай у адказны момант. Ужо прыйшоў Галка Васіль Аляксеевіч – жвавы «спецыяліст», які за сваё жыццё адолеў не адзін дзесятак парсюкоў. Шпарка мацаючы швайку з колікам, ён ажыўлена вёў гутарку аб міжнародным становішчы, аб праблемах у раёне, аб узаемаадносінах з суседам. Падышоў хросны Васілёк (Васіль Іванавіч Ветчанка) з вяроўкай. Глытнулі па шклянцы «мясцовай» – «каб усё было добра». Баба Аксіння з сумам сказала, што калі яна насіла пойла, каб вывесці парсюка з хлява, то ён жалобна рохкаў і нехарактэрнымі ласкавымі адрывістымі гукамі гарнуўся да яе. Мама імкнулася не выходзіць з хаты, у каторы раз нярвова перасоўваючы посуд. А бацька снаваўся, шастаў ля акна і ў момант, калі ўбачыў, што Галка Васіль лоўка завязаў вяроўку за нагу парсюка, імкліва шмыгнуў за дзверы ў другі пакой, каб не толькі не бачыць, але і па магчымасці не чуць таго, што робіцца ў двары.

Рытуал забою праходзіў жвава. Кемлівы парсюк спрытна адбрыкваўся, але мы з хросным моцна трымалі вяроўку, ды й Васіль Галка ведае сваю справу – ён імкліва, але надзейна скарыстаў сваю зброю: швайка трапіла акурат у сэрца. Так што агонія няшчаснай жывёліны цягнулася нядоўга. Парсюка спраўна вынеслі ў агарод на раней падрыхтаваную салому, пад бакі падклалі па кавалку невялікіх бярвён, каб зручней было смаліць. Далей абрад спалучаўся са смакавітым рытуалам смалення паяльнай лямпай (раней, кажуць,





выкарыстоўвалі кулявую салому). Падышоў бацька, распаліў лямпу, даў яе хроснаму, які павольна і паслядоўна неаднаразова прасмажыў парсюка ад лыча да хваста. Галка на заключным этапе па-майстэрску прадубліраваў смажанне вушэй і ног – каб было добрае халоднае. Я прынёс цёплую ваду і ручнікі. Спачатку Васілёк, а затым Галка абскрэблі парсюка, затым добра абмылі. У гэтым працэсе трэба сачыць, каб не патрэскалася скура і каб смажанне адбылося адначасна як у глыбіню, так і раўнамерна было размеркавана па паверхні. У дадзеным выпадку ўсё атрымалася якасна.

Калі працэс смалення парсюка быў завершаны, яго прынеслі ў хату і ўсталявалі на стол. Ужо падрыхтаваны нож, сякера і розны посуд. Спачатку Галка адрэзаў грудзіну, якую баба Аксіння парэзала на кавалкі і разам з цыбуляй і соллю засмажыла на патэльні. Затым кроў конаўкай выбраў у каструлю – на крывянку. Адрэзаў вушы, ногі, хвост, галаву, выбраў вантробы, адарваў здор. Мама з бабай парэзалі сала на здатныя кавалкі, пасалілі і склалі ў кубел, а мяса і косці па якасці з большага пасартавалі на каўбасы і вэнджанне...

Як ма́е быць, магарыч з добрай чаркай і свежай шкваркай падвялі рысу адмысловаму рытуалу забойства парсюка.

Добры быў стол на Каляды!

**Мёд**

Мой дзед Якаў быў майстрам на ўсе рукі ў поўным сэнсе гэтага выразу. Ён стругаў вокны і дзверы, ставіў хаты і хлявы, вязаў няроты і лавіў рыбу і ракаў, майстраваў узорныя шафы і канапы. А яшчэ дзед займаўся пчалярствам. І хоць у гаспадарчай кнізе было запісана, што ў яго ёсць адна калода пчол, на самай справе іх было тры: адна калода стаяла пад грушай на прысядзібным участку, а дзве былі прымацаваны ў густых кронах ліп-двайнятак непадалёку. Так рабілася, каб не плаціць лішняга падатку. Такім чынам, у нашай сям'і хоць і не многа, а мёд быў.

Была сярэдзіна лета. Бацька на працы ў калгасе. Мама ў трэцім пакоі няньчыць у калысцы маленькага Сашу. Дзед Якаў і баба Аксіння на зямельным надзеле за восакарам на валах плугам апра-

цоўвалі ўзыйшоўшую бульбу, а я пайшоў гуляць да суседа Сашы Прахорчыка. Час прыбліжаўся да абеда. Саша сядзеў на падаконніку і нудзіўся: дзед Ціт працаваў у кузні, а баба Палажка была ў полі. Пасля недоўгачасовай размовы са мной Саша працягваў нудзіцца яшчэ больш і заспяваў песню, якую прыдумаў сам: «Дожчык, дожчык, ліні, ліні, бабу з поля прагані!» Але ніякі дождж і не думаў з’яўляцца.

Скора мы выйшлі на вуліцу. Там ўжо стаяла некалькі большых хлопцаў, якія пачалі падбухторваць мяне, каб я іх завёў да сябе ў хату і пачаставаў мёдам. Я без дазволу бацькоў гэтага рабіць не хацеў, тым больш, што дзверы ў хату былі зачынены вялікім ключом. Хлопцы прапанавалі залезці праз акно. Я ў нерашучасці стаяў і моўчкі пазіраў, як яны па ляжачай на прызбе лесвіцы хутка ўскочылі ўнутр пакоя, а затым і сам зрабіў тое ж. Хлопцы спыталі, дзе мёд, і я адчыніў шафу. Тыя хуценька выцягнулі міску з нядаўна адкачаным мёдам і лыжкай пачалі яго есці. Разам з імі і я паспрабаваў мёд пальцам. Хутка ўсе тым жа шляхам вылезлі ў двор і пайшлі на вуліцу. А я больш ніколі ў жыцці не хацеў есці мёд.

**Вадохрышча**

Весела прайшлі ў Грушным Каляды, Куцця, Святкі, шчодрыкі і сустрэча Старога Новага года з дзіцячымі «засяваннямі крупамі». Наступіла Вадохрышча. Снегу мала, але дзеці каталіся на саначках з Паўлавай горкі, ля Новіка, ля Ліды Цыбулькі, забаўляліся хто на каньках, хто проста ў бурках з бахіламі на слізкім рачным лёдзе. У гэты час некаторыя старыя людзі ў пельках на Брагінцы выканалі асвячэнне вады.

Хтось з жыхароў вуліцы, што ля ракі, зрабіў крэстападобную пельку і пафарбаваў лёд сокам чырвонага бурака. Тым самым малюнак асацыятыўна ўспрымаўся падабенствам ахвярнай Божай крыві. Шынкарэнкавыя дзеўкі вадой з гэтай пелькі мылі твары, каб быць прыгожымі, і тым самым выконвалі абрад купання. Гэта трэба рабіць не спяшаючыся, ад душы, але ўзнёсла і з усведамленнем урачыстасці. Пельку прасяклі таксама і ў канаве ля кузні. А крыху далей,





ля ўрочышча Садок, дзе пачаў расці малады алешнік, мясцовыя энтузіясты залілі каток, на якім збудавалі кругазварот: у сярэдзіне на штыры закрэплена кола ад воза, да якога прымайстраваны доўгі дрын для кругавога вярчэння весялуноў. Дзеці ў запале бегалі вакол, жартавалі. Баба Мар’я Дарашыха набрала ў тры бутэлькі вады з ракі, папырскала-акрапіла асвечанай чамярыскім папом-дабраком Кандрашкам соллю і назвала гэта «Іардань» – як напаміны пра хрышчэнняе Хрыста ў Іардане. Адну бутэльку прынесла дачцэ Галі, якая ўвіхалася з першынцам, другую занесла сыну Грышу, які з жонкай, двума дзецьмі і цешчай пражываў недалёка, а трэцюю аставіла сабе – «на ўсялякі выпадак».

За гэтыя дні неаднаразова прыходзіў паглядзець на пляменніка трэццякласнік Валя Шрамянок (сын бабы Мар’і; у пасведчанні аб нараджэнні значылася: Валерый). Яму народжаны пляменнік не нават спадабаўся. Ён адзначыў, хоць і не бачыў, што дзяўчынка, якая ў той жа самы дзень нарадзілася ў суседзей Гракуноў Маркі і Фядоры, прыгажэйшая. Сівабароды грушэнскі асілак Шрамянок Дзям’ян Уевіч прыкмеціў у нованароджанага стрыечнага ўнука маленькі роцік і радзімку над правай брывёй і зазначыў, што гэтым ён падобны на сваю маці. А пасля задумліва сказаў:

– Год высакосны, цяжка будзе хлопцу ў жыцці. Але радзімка над брывёю сведчыць аб тым, што ён будзе кемлівы і сам справіцца з жыццёвымі цяжкасцямі.

Наведалі ўнука родная сястра бабы Аксінні Еўдачэнка Мар’я, якая з дзедам Рыгорам жыла ля ракі; іх суседка, родная сястра дзеда Якава Бандарэнка Фядора з мужам дзедам Лукашом, дачкой-настаўніцай Вольгай і двухгадовым унукам Славікам; сваячка дзеда Якава баба Хрысціна, якая праз некалькі год пераедзе ў Кіеў да сына Яфрэма; родны брат маёй маці і дзядзька згаданага вышэй трэццякласніка Валі Шрамянок Грыша Дорахавіч; стрыечныя браты майго бацькі Гракун Назар Ілліч (гэта ён дапамог звесці даўно варагаваўшыя сем’і ў шлюб Галі і Грышы) і Іван Ілліч; з Сувід загадзя прыйшла наведацца цётка Ліса (націск на “і”, па-сапраўднаму – Анапрэенка Лізавета Тарасаўна).

Баба Параска, удава Івана, нябожчыка брата бабы Аксінні, у гутарцы з сынам Васільком (Ветчанкам Васілём Іванавічам), сказала:

– У Грышы дзіця нарадзілася ў высакосны год. А ў высакосныя гады куміцца можна толькі з кроўнымі сваякамі. Ты ж, Васілёк, з Грышам з'яўляецеся стрыечнымі братамі. Ідзі пагавары аб гэтым з дзядзькам Якавам.

Калі Васілёк прапанаваў стаць хросным бацькам, усе згадзіліся. А каго ўзяць хроснай маці, пакуль не ведалі. Усе сваякі радаваліся майму з'яўленню на свет і шчыра віншавалі маіх бацькоў.

Каб быць дастойнымі прычаснікамі Цела і Крыві Хрыстовай, жанчыны ў Хартонавай хатцы маліліся: «Приимем достойне Пречистое Тело и Кровь Христову, и тако от грех своих очистимся. Рече убо Святый Апостол: аще кто недостоин сый приемлет Тело Божие, то грех себе яст и пиет, не рассмотряя Тела Христова».

Першы панядзелак пасля Святак. Мароз крыху спаў, вецер сціх. Бацька пайшоў у сельскі Савет у Савічы, дзе на мяне афармілі пасведчанне аб нараджэнні. Афіцыйным афармленнем базіснага дакумента я атрымаў імя і правы грамадзяніна. Да Пасхі заставалася крыху больш двух месяцаў. 7 красавіка – Вялікдзень.

У апошнюю ноч 1952 высакоснага года, каб не перацягнуць усё дрэннае ў Новы год, Хартонава сястра, манашка Вера малілася:

«Анёлы гадавыя, анёлы святыя, словам сваім не давайце, справай сваёй не пускайце з высакоснага года, які сыходзіць, у новы год прыходнага. Не пускайце да рабоў Веры, Колі, Хартона, Тэклі ні чорных дзён, ні зласлівых людзей, ні слязы гаручай, ні хворасці балючай. Дванаццаць анёлаў, устаньце на абарону Веры, Колі, Хартона, Тэклі, слова дужа, да года лепка. Амінь! Амінь! Амінь!»

У гэты высакосны год у Грушным нічога асаблівага не здарылася.

**Помню дзяцінства**

***

Насупраць Раманавай хаты жыла з трыма дарослымі дзецьмі і ўнукам Гракун Акуліна Аляксееўна, якой было каля сямідзесяці год.





Сярод падлеткаў гэтая жанчына карысталася нядобрай рэпутацыяй, і яны над ёй пры выпадку непрыстойна пажартоўвалі.

Аднойчы ля свайго дома я гуляў з большымі за мяне дзецьмі. Неўзабаве мы заўважылі на яшчэ дастатковай адлегласці гэтую бабу, якая, займаючыся асабістымі справамі, набліжалася ў наш бок. Хтосьці прапанаваў мне пажартаваць з бабай. Я не згаджаўся. Тады дзеці дамовіліся паміж сабой і сумесна пачалі падбухторваць мяне на хуліганства, акцэнтуючы ўвагу на тым, што, калі я смелы, то скажу тое, чаму яны мяне навучылі. Гэты аргумент падзейнічаў, і я згадзіўся. Калі баба, некуды спяшаючыся, наблізілася, я падышоў да яе і сказаў:

– Бабка Кулінка, у ж… дубінка! – так, як мяне навучылі.

Дзеці разбегліся, а я для смеласці застаўся стаяць. Баба ледзь запаволіла рух і накіравалася ў маю хату. Праз некалькі хвілін да мяне падышлі задаволеныя дзеці і прапанавалі схадзіць у хату і праверыць, чаго яна туды пайшла. Калі я прыйшоў у хату, там моўчкі сядзелі баба Куліна, дзед Якаў і баба Аксіння. Я падумаў: «Можа, баба Куліна не дачула тое, што я ёй гаварыў?» Але тут жа дзед Якаў перабіў мае думкі і папрасіў паўтарыць тое, што я сказаў на вуліцы. Калі я паўтарыў, то баба Аксіння, стрымліваючы ўсмешку, адвярнулася, а дзед Якаў сказаў, каб я ішоў на вуліцу гуляць і больш так не гаварыў. Калі я выйшаў у калідор, то пачуў шчыры рогат дзеда Якава.

***

У дзяцінстве я часта з іншымі дзецьмі весела і жыва гуляў у розныя забавы. Памятаю спрытныя гульні ў Чыжыка і Пекура.

Для гульні ў Чыжыка мы па аднаму мералі з нізу да верху палку: чыя рука аказвалася наверсе, той пачынаў першым. У сярэдзіну квадрата клалі завостраную палачку-Чыжыка і па чарзе білі па ёй доўгай палкай. Калі Чыжык падскокваў, яго адразу хутка падбівалі такім чынам, каб ён выляцеў з квадрата, і злавіць яго рукамі. Той, хто не змог гэтага зрабіць, перадаваў ход наступнаму гульцу. І так некалькі кругоў, пакуль найбольш спрытны не набярэ раней дамоўленай колькасці ачкоў. Наколькі памятаю, часцей за ўсё пераможцай у гэтай гульні была мая суседка Галя Верына.

У Пекура гулялі пасярод вуліцы, дзе часцяком у пяску знаходзілі не вельмі іржавыя гільзы нядаўняй вайны, ці на недалёкім лузе. Пасярод вялікага прамавугольніка, накрэсленага на зямлі, ставілася дроўнае бервяно-Пекур. У кожнага ў руцэ – зручныя палкі-дрыны, якія спачатку ўсе па чарзе кідаюць у Пекура: чыя палка апынецца бліжэй за ўсіх да Пекура, той станавіўся вартавым. На другім этапе, калі гульцы кідалі палкі, каб збіць Пекура, вартавы павінен хуценька паставіць кожны раз збіты Пекур на месца. Калі апошні гулец кіне свой дрын, усе бягуць хватаць свае палкі. У гэты час вартавы імкнецца дакрануцца да любога гульца, а затым трапна збіць Пекура, пакуль дакрануты гулец не збег з палкай за рысу квадрата. Калі гэта ўдасца, гульня прадоўжыцца з новым вартавым. Лепш за ўсіх гуляў у Пекура Шура Алепаў – ён жа большы.

***

У 1955 годзе ў Грушнае з Савіцкага радыёвузла правялі лінію радыёперадачы. Па ўсёй вёсцы стаялі 150 апор: прамежкавыя, падстаўныя і з падкосам.

На слупу ля Ляшчука змясцілі вялікі гукаўзмацняльнік, па якім голасна па раніцах савіцкі радыст Міхаіл Цітоў апавяшчаў насельнікаў аб мясцовых падзеях.

Па радыё грушэнцы таксама даведваліся аб розных навінах у краіне і за мяжой.

***

З даўніх часоў грушэнцаў пасля смерці хавалі недалёка ад царкоўнага цвінтара, на поўнач ад вёскі. За многа год могільнік разросся, увабраўшы ў сябе сведкаў гісторыі ад палякаў да камуністаў. Час змяніўся, а людзі працягвалі ўміраць. Стала цесна: з аднаго боку – дарога на Цалуйкі, з другога – балота.

Новы старшыня калгаса «III Інтэрнацыянал» Койдан І.Ф. даўно выношваў задуму акультурыць рытуальнае месца, таму што нагрувашчванне магіл у далейшым было недапушчальным. Таму пры





падтрымцы насельніцтва вырашана было заснаваць новыя могілкі, і месца ім выбралі побач, крыху далей у бок Цалуйскай дарогі.

22 чэрвеня 1955 года ў прысутнасці вялікай колькасці народу на новым месцы першай на гэтых могілках, справа ад загадзя ўстаноўленага вялікага абрадавага крыжу, была пахавана заўчасна памершая днём раней трыццацігадовая Еўдачэнка Еўдакія Паўлаўна. Запрошаны для царкоўнага абраду прыходскі клірык Кандрат, умацоўваючы духоўна вернікаў мілатай Гасподняй, кадзіў ладанам і вымаўляў малітву: «Каділо Тебе пріносім, Хрісте Боже наш, в воню благоуханія духовного, еже пріем в пренебесный мысленный Твой жертвеннік, возніпослі нам благодать Пресвятаго Твоего Духа…»

На другі дзень баба Мар’я вадзіла мяне на новыя могілкі – «ацьведаць адзінокую нябожчыцу».

Пройдзе час – вялікі крыж з рытуальным прыладдзем і маленькі побач, перавязаны ручніком, абрастуць сотнямі вечных насельнікаў новых могілак.

…А вакол вырастуць вялікія сосны.

## АФАНАСИЙ БОТЯНОВСКИЙ

*Родился 19 августа 1985 года в Минске. В 1992 году пошёл в СШ № 25, в 1993 – в музыкальную школу № 2 на отделение скрипки. В 2003 году поступил в Республиканский музыкальный колледж при БелАМ, который окончил в 2006 году, получив квалификацию «артист оркестра, ансамбля». В 2006 году поступил в БГПУ им. М. Танка, который окончил в 2009 году, получив квалификацию «преподаватель музыки». Весной 2009 года издал поэтический сборник «Серебряный голубь», в октябре 2010 года – сборник стихотворений и поэм «Бездна над головой», в мае 2014 года – книгу стихов «Рыцарь духа».*

### Музыканту-эмигранту, или Оборотная сторона медали

Без семьи, без детей,
Без друзей, без любови,
Ты кочуешь по миру,
Ты везде и – нигде.
Не мулат, не еврей,
Славянин ты по крови,
Верный собственной лире,
Своей звездной судьбе.

Ты забросил себя,
Позабыл ты о книгах,
Лишь газеты читаешь
На чужом языке.
И, Вивальди любя,
Добровольно вериги
На себя надеваешь
В азартной тоске.

Ты желаешь осесть
В этом западном мире,





Ты мечтаешь блистать
Недоступной звездой,
Но приходиться есть
Хлеб на съёмной квартире,
Лишь в мечте посыпать
Его красной икрой.

Можно долго скакать
По Европе культурной,
Забывая страну,
Где тускнеют мечты,
Только хватит играть!
От игры этой – дурно:
Ради сладких минут
Не сжигают мосты…

### Слова

Слова, словно волны морские,
Накатывают на меня.
Слова, как солдаты седые,
В бою не страшатся огня.

С мечтою о сладостном рае
Пустеет моя голова.
Не Слово меня убивает,
Я сам убиваю Слова!

Я – интеллигентный повеса.
Пленяет меня Красота.
Стреляю я рифмами в беса,
В ребро попадая Христа.

Ночная холодная скука.
Терзает меня темнота.

И совесть моя, словно сука,
Протяжно скулит у Креста.

**Природа-баня**

На природе, словно в бане,
Отмываю душу рьяно
Я от сажи городской.
Стали мылом лес и долы,
А мочалкой стало поле,
Дождик – ледяной рекой.

Вишни, яблони и груши,
Ветры, степи и леса
Отмывают мою душу,
Мои мысли и глаза.

Каждым летом, мать Природа
(Реки, долы и леса),
Представителю народа
Мой и душу, и глаза!

Обнимите меня, ветры!
Дайте силы на года,
Чтобы каждым новым летом
Я, как в баню, шел сюда!

**На малой родине**

Я сюда прихожу каждый год.
Перед родиной все мы, как дети.
И не верится мне, что мой род
Не одно проживал здесь столетье.





Вы простите, родные поля,
Что так долго на родине не был.
Вы простите меня, тополя,
Но и в мыслях своих вас не предал.

Не напрасно алеет заря.
Вы, дубы, не напрасно шумите.
Клёны, клёны, не зря вы стоите:
Помолитесь, прошу, за меня!

Облака, меня перекрестите,
Чтобы холод не мучил мне грудь.
Ели с соснами, благословите
Мою душу на жизненный путь!

**Девяностые годы**

Вертолёты гудят над землёю,
Пахнет воздух тревожно войной.
Славянин, ослабевший душою,
На закате поник головой.

Задрожал перед новою жизнью…
Невесёлые, в общем, дела:
Был он предан Советской Отчизне,
А Отчизна его предала.

Не забыть девяностые годы,
Наглый хохот и наглую прыть,
И растерянный взгляд у народа
Никогда, никогда не забыть.

Был я мальчик тогда, но о славе,
О величии родины – знал,

И хотелось спасти мне Державу,
Когда враг ее жадно кромсал.

На эстраде плясали красотки,
А страна, мне никак не забыть,
Всё лакала Свободу, как водку,
А потом её стало мутить.

Те, в ком было немерено силы,
Жизнь пустились свою прожигать.
Почему-то, увы, самым хилым
Выпал жребий страну защищать.

Наблюдать было страшно и грустно,
Как страна прозябала во лжи,
Как юнец тот, халявщик безусый,
Старика учил правильно жить.

Я хоть был тогда маленький мальчик,
Знал: любой человек – это храм.
Жаль, душа его – тёмный подвальчик,
Где пылится затерянный хлам.

Песнь Свободы – утеха для смелых.
Для других она – гибельный путь.
Так сугроб целомудренно-белый
Предлагает прилечь и заснуть.

Сколько б мы ни искали, ни жили,
Правду разве найдёшь на земле?
Богачу не хватает на виллу,
Бедняку не хватает на хлеб.

Жизнь весёлой кружит каруселью,
И хоть начало слабых тошнить,





То круженье не остановить,
Как и сходу не спрыгнуть на землю.

В городах, как в тюремной неволе,
Свою душу легко погубить.
Человек с невезучею долей,
Ты пройдись по широкому полю,
Чтобы душу свою воскресить!

Перезвон колокольный послушай,
Соберись, будто перед борьбой,
И свою отягчённую душу
Ты омой ледяною зарёй.

Только слабый не знает и глупый,
Но зато знает каждый поэт,
Что за ночью безумной наступит
Отрезвляющий ясный Рассвет!

**Проклятый поэт**

*Посвящаю Рембо*

Мне место в преисподней – не иначе,
Дышать мне дымом и гореть огнем
За то, что рабство не зову добром,
За то, что ною, и за то, что плачу,

За то, что не смиряюсь я со скукой,
За то, что смею сочинять стихи,
За то, что я считаю: мои муки
Важнее Богу, чем мои грехи!

За то, что не люблю я лицемеров,
За то, что не смиряюсь я со Злом,

За то, что в правду не теряю веры, –
Дышать мне дымом и гореть огнем!

**Противостояние**

Мои друзья пижонят по Европе,
Знать не желая про чужую грусть,
А я готовлюсь к бою, я молюсь
В предчувствии кровавого потопа.

Я знаю с детства противостоянье
Добра и Зла, титанов и богов.
Я согревался коньяком стихов,
Чтобы унять конечностей дрожанье.

Под окнами моими вечер ржал
И дуры пели пошлые куплеты.
Дух Перестройки их формировал,
Меня ж лепили русские поэты.

Казался мне пророком Гумилев.
Его строку я чтил как Откровенье.
С усмешкою среди земных богов
Я проходил, тая стихотворенье.

Я видел дикость: тьма сжирает свет.
Досадовал я на свое молчанье.
Но понял я спустя десяток лет:
Стихов поэта двигатель – страданье.

Мои друзья фасонят по Европе,
Знать не желая про чужую грусть,
А я готовлюсь к бою, я молюсь
В предчувствии кровавого потопа.





***

Столько слышу уродливых слов!
Слов прекрасных встречаю так мало!
По столице бреду я устало,
Сомневаясь в победе стихов.

Но я знаю: домой лишь приду,
Лишь открою я томик поэта,
Вмиг на все я вопросы найду
Ослепительной ночью ответы.

**Ностальгия по морским волнам**

Где ты, где, о радостное солнце?
Где ты, где, лазурь морской волны?
Ах, не знал я в детстве, что придется
За свои раскаиваться сны!

Жизнь, прости наивному поэту,
Что не может сладить он с тоской,
Что ему зимою снится лето,
Крымский берег – теплый, золотой.

Ты прости, что смею ненавидеть
То, что причиняет сердцу боль.
Ты прости, что не желаю видеть
Снег февральский – белый, словно соль.

Потому я и пишу сонеты,
Потому я и в луну влюблен,
Что зимою солнце тускло светит
И не слышен сладкий шепот волн.

## Подражание Омару Хайяму

Среди душных вещей затерялась душа,
В этой жизни не стоит душа и гроша.
Но умрет человек, что с собой заберет?
Уж, конечно, не кресло, диван и комод.

После смерти узнаем, что было важней:
Царство духа иль мертвое царство вещей.
Если пылью покрыта вся будет душа,
Значит, прожил не так, значит – прожил, греша!

## Ветер в гостях

*Вариация на тему Визбора*

Мы затопим в домике печь,
Мы гитару в руки возьмем,
Будет песня рекою течь,
Наполняя мелодией дом.

Растворяется жизнь в делах,
Растворяются сны в ночи.
Нам знакомы усталость и страх,
Но об этом мы помолчим.

Пускай месяц желтеет свечой.
Помнишь, мерзли мы на ветру?
Знай: тебя я люблю горячо.
Мои губы тебе не соврут.

Мы друзей к себе пригласим,
Позабудем усталость и страх.
Люди спросят: «Чего шумим?»
Скажем: «Ветер у нас в гостях».





## Стенька

В очи синие небес
Расплевался ветер.
И худой фонарь, как бес,
Желтым глазом светит.
Клещи позади пылают
Невозможных дней…
Делать что в жару, не знаю,
С головой своей.
Я пойду на снег, на ветер,
Босоногий вор,
Я пойду на плаху света –
Целовать топор…

## Палата номер шесть

*А.П. Чехову*

Проснувшись зябкою весенней ранью,
Я понял: жизнь не стоит и гроша!
Здесь пахнет от людей какой-то дрянью,
И тряпкою становится душа.

Холодное и злое мирозданье,
Короткая и жесткая кровать.
Запутано, исколото сознанье…
Да, здесь лежат, чтобы потом не встать!

Цари, пророки, гении и судьи,
Разбитые, расколотые судьбы…
Здесь Господа ругает местный Кант.

По серым коридорам ходят люди,
Никто уже не дышит полной грудью,
И совесть, словно вечный арестант.

**ОЛЬГА БОТЯНОВСКАЯ (ДЕДКОВА)**

*Родилась 27 октября 1961 года в деревне Бирюли Краснопольского района Могилевской области. С золотой медалью окончила десятилетку в Смолевическом районе Минской области в 1979 году. В этом же году поступила в БГУ им. Ленина на факультет журналистики. Окончила в 1984 году. Работала в газете «Трактор», 20 лет проработала в многотиражке «Автозаводец». В данный момент работает в газете «Транспортник столицы». Автор сборника стихов и поэм («Минсктиппроект», 2003), а также юмористической книги «Зина и Сима. Телефонный разговор» («Ковчег», 2010). Пишет маслом картины.*

**Голубь**

Лети, мой голубь,
В небеса.
Пускай роса, пускай гроза,
Моя горючая слеза
Пусть солонее слез Рахили,
Лети над бездною, над илом,
Над тем, что я всегда любила,
Над тем, что воспевала в строчках.
Лети над матовым листочком
Так пряно пахнущей полыни,

Над нашей речкой,
Синей, синей,
Над всей моей бедой и бредом,
Над домом, где покой не ведом,
Над полем с острыми плугами,
Над крышами с их проводами. —

Лети, лети, лети над нами…
Скажи, что я жила на свете.





**Церковь**

Высоко на горе эта церковь стоит
И крылом закрывает весь город.
Воткинск спит, и о чем, и о чем говорит
Эта церковь с синеющим бором?
Будто птица, слетевшая с самых высот –
В ней красивая святость и строгость,
В ней от купола до незакрытых ворот
Величайшая преданность Богу.
Нас куда-то, как щепки, несет и несет.
Моя жизнь вдалеке будет длиться,
Но как хочется мне хоть на будущий год
В этой церкви святой причаститься.

**Юрьево. На Пасху**

Присядь. И вместе помолчим.
Вон облака плывут над крышей,
И вьюжит ветер снег над вишней.
Весенний снег всегда любим.

Всегда любимо, что осталось
За рубежом ушедших лет.
Мне скверов брошенных усталость
Об этом говорила вслед.

Мне жаловались колокольни
Шатающихся тополей,
Округу наполняя звоном
Скворцов — любимых звонарей.

Неужто уходило столько
И туч, и вёсен, и людей?

Луна отлущенной фасолькой
Скрывала тайны этих дней.

И где-то я, совсем отдельно,
Жила, страдала и жила.
И в этой жизни беспредельной
Какая-то тоска росла.

Присядь. И вместе помолчим.
Я не искала здесь отрады,
Но как же все деревья рады,
И каждый встречный куст любим!

***

Наверно, я из тех веков,
Когда металл лежал в земле.
Руда, похожая на кровь,
Струится красная во мне.

Земли приливы тяжелы.
И я их чувствую душой.
Да, я подножие скалы,
Я кварц и слиток золотой.

По мне и реки, и ручьи
Бегут в безмерный океан.
Мои горячие лучи
Стекают лавой по холмам.

Вот почему с моей землей
Не разлучить меня никак.
Во мне поют, поют века –
Холмом, долиной и скалой.





**Сыну Афанасию**

Из дома скрипка уходила.
И саван белый был — футляр.
Каштанов выцветших кадила
Чадили в утренний угар.

Она, как ты, мой сын, болела
И умирала — за тебя.
Я помню — ты был белый-белый,
Как ангелы, что в снег глядят.

Как лебедь клали, взяв за шейку,
Твою подругу в светлый гроб,
Обрезав струны, словно реки,
Чтоб не текли, не ныли чтоб.

Ты знай, она ведь замолчала
И умирала — за двоих.
То, что она не досказала,
Доскажешь ты в стихах своих.

***

Я вас считала, как цыплят –
Мятущиеся города –
Мосты, проспекты, поезда.
Я в вас входила наугад.

Там, сзади, оставался сад.
Для верности брала фонарик.
И где-то на земле был ад
И солнышка воздушный шарик.

Мне нечего теперь хвалить,
Ступнями мостовую плавить.
Мне скучно по дворам ходить
И быт чужой по свету славить.

Перешибёшь плеть обухом.
Я воспою свое кочевье –
Меня нашли под лопухом
В глухой и нищенской деревне.

***

Мне кажется, мне сотни лет,
И гор Уральских цепи –
Мой, жизнью согнутый скелет.
Да, я ковыль и – степи.

Я – этот ил, я – топь реки,
Убежище русалок.
Как спирт, сгорают васильки.
Их синий пламень жарок.

Зови – я эхом отзовусь
Со всех окраин света.
Сейчас я женщиной зовусь
И крест несу поэта.





## *НИКОЛАЙ БУДИШЕВСКИЙ*

*Родился 7 апреля 1956 года в Овручском районе Житомирской области. В 1973 году закончил Овручскую школу. Трудился рабочим строительной бригады, а в 1977 году закончил Припятское училище № 8 по специальности «слесарь КИП и А». Работал на Чернобыльской АЭС. Принимал участие в пуске первого энергоблока Чернобыльской атомной ТЭЦ. Работал на монтаже оборудования Усть-Илимской ГЭС и Череповецкого металлургического комбината, на открытых горных работах в Красноярском крае.*

*С 1983 года работал на стройках Беларуси (Минская ТЭЦ-4, ТЭЦ-5, Белоозерская ГРЭС, Гродненская, Могилевская, Гомельская и Бобруйская ТЭЦ).*

*В настоящее время на пенсии. Проживает в п. Дружный, Пуховичского района, Минской области.*

*Первые стихи написал в 1983 году, сохраняет верность поэтическому слову и сегодня. Автор сборника стихов и поэм «Хочу мечтать» (2015 г.).*

**Ветеранам второй мировой войны**

Рассвет, сверкают ордена – багряны,
Свет из-за горизонта, яркий свет.
Но старые опять заноют раны,
Хоть радует тюльпанов свежих цвет.

Воркуют нежно голуби на крыше,
Ещё в голубизне есть серп луны.
А свежий воздух поднимает выше,
Сады цветут, и нет давно войны.

Легко ступает ранний тот прохожий,
Вдыхая воздух, дышит тишиной.
А в День Победы, светлый и пригожий,
Под солнцем город спит и под луной.

Трамвай идёт, шевелится округа
Автобус вышел в первый ранний рейс.
Вставай, товарищ, и поздравь ты друга,
И обними тепло, как эдельвейс.

Постой и помолчи у обелиска
И положи к подножью ты цветы.
Так далека победа, и так близко,
Ей дорожат потомки – я и ты.

Окопов и дорог военных нити –
Счастливых ради наших, светлых дней
Бойцам, войну прошедшим, поклонитесь:
Их подвиг вечен – в памяти людей.

И тишь, и мир – то их заслуга,
Отдавших жизнь, свершивших чудеса.
И взмыла в честь них Стелла над округой,
Флаг Родины подняв под небеса.

**На разных волнах**

Подул ветерок,
Зашумели берёзы.
Растаял снежок,
Отступили морозы.

В дремучих лесах
Звонко птицы запели
Вон клин в небесах –
С криком гуси летели.

________

Тихо роща шумела...
Прилегло к телу платье.





Капля сока созрела
Для девчонки – ах, знать бы...

Зарумянились щёки,
И весна манит в дали.
Чистый взгляд ясноокий
Гибкий стан нашей Вали.

А в сетях заблудился
Озабоченный Гарик.
Не в лесу с пути сбился –
В интернете кумарит.

Незаметно любовь
И весна пройдут мимо:
Время выкрадет вновь
Его ящик любимый.

Есть друзья и вино,
За душою копейка.
Всё возьмёт казино
И рулетка-злодейка.

Стоят молча, сок пьют,
У березок девчата.
Для парней их уют –
Интернет и блок-хата.

***

Бежит мальчик по дорожке –
Это Димы спешат ножки.
Хочет в садик он сейчас –
Дверь открыли в первый класс.

Молча оттопырив ушки,
Смотрят детские игрушки,
Словно дочери-сынишки,
На тетради, сумку, книжки.

Звук машинки приглушили –
Вчера только с Димой были.
Настя нежно у подушки
Гладит мягкие игрушки.

Так по Диме все скучают
Ему в школу, они знают:
Вырос, в  первый класс пошёл –
Седьмой годик подошёл.

«Как хорош наш молодец!» –
Сказал ласково отец.
Он коробочку открыл
И подарочек вручил.

Мама чуть слезу пустила,
Книжку сыну подарила
И подарки принял он
Все от родственных персон.

Пожеланий было много
Диме в школьную дорогу:
«Твёрдо, смело ты иди
По учебному пути!

Для Вселенной будь звездою
С чистым сердцем и душою!
Сто лет счастья, светлых дней,
И побед в жизни твоей!»





**О любви**

Саша в машину влюблён,
Жить без неё он не может.
Вася – мужик наш, не клён,
Любит жену свою всё же.

Чай очень любит Иван,
Томе нет жизни без кофе.
Толя от мёда лишь пьян,
Я обожаю картофель.

Любят одни лишь блины,
Ну, а другие – пельмени.
Дай одним банки страны,
Денег другим хватит жмени.

Голые – рады штанам,
Кто побогаче – палатам.
Ходит любовь по пятам:
И по дворцам, и по хатам.

**Монолог продавца**

Привет, клиент! Не хмурь ты брови,
Скажи с улыбкой комплимент.
Продать товар всегда готовы –
Ты не скупись, лови момент.

В торговле я проблем не вижу –
Смотри, плати, бери товар.
Клиента в жизни не обижу:
Упрёки в этом – лишь базар.

Я же такой, как ты, трудяга
Будь повнимательней ко мне.
И на весах товара тяга
Чуть легче станет, то ж – в цене.

Всегда хорошему клиенту
Рад, и безмерно, продавец.
Для верности вручит он ленту
На радость бьющихся сердец.

Не хмурь, расправь густые брови
Поправь для бодрости усы,
И станет тёплым взгляд суровый,
Пройдут секундами часы!

***

Мечтаем достичь мы вершины,
Любви нам, как всем людям, надо,
И мыслях вдвоем мы едины –
Среди яблонь райского сада.

Вот смело мы сделали шаг,
Идем мы навстречу друг другу.
Цветы держим нежно в руках,
С собой приглашаем подругу.

Вальс, платье, причёска, фата –
Бал кружит, с собой увлекает...
Костюм, галстук, ленточка та,
В петлице цветок аж сверкает.

«Родные, простите вы нас –
Вчера ещё мы были дети.





И крепко целуем мы вас:
Нам всех вы дороже на свете.

Спасибо вам, мама, отец
За то, что нас благословили,
И в трепет что наших сердец
Вы доброе слово вложили!»

Вальс льётся, и хочется жить,
И с лёгкостью плыть вновь по кругу,
Чтоб танец всех смог подружить,
Чтоб смог пробудить всю округу.

«Желаем мы все молодым,
Звезда чтоб сияла удачи,
Сомнений развеялся дым,
Чтоб жили в любви – не иначе,

С любовью растили детей,
Гордились за внучек и внуков,
Добились чтоб цели своей,
Дружили с культурой, наукой.

Сияйте улыбкой, уста,
Пусть дом будет – полная чаша!
В любви лет живите до ста,
Сказали чтоб: «Гордость вы наша!»

## КЛАЎДЗІЯ ВЕРАБ'ЁВА

*Нарадзілася ў жніўні 1941 года ў Беларусі, у Магілёўскай вобласці, у Чэрыкаўскім раёне. Бацька прапаў без весткі ў снежні 1943 года. У маці, якая працавала ў калгасе, засталося трое няпоўналетніх дзяцей. Адступаючы, фашыст спаліў усю вёску. Пасля сярэдняй школы працавала на птушкакамбінаце, на маслазаводзе ў г. Крычаве.*

*З верасня 1959 года па чэрвень 1963 года вучылася ў Мінскім педагагічным інстытуце. Працавала ў дзіцячым садзе № 16 МТЗ выхавацелем, а ў садзе № 242 МТЗ – метадыстам-выхавацелем, інспектарам па дашкольнаму выхаванню ў Мінскім ГарАНА, загадчыцай яслей-сада № 273. З апошняй пасады ў снежні 1996 года пайшла на пенсію.*

*Мае дачку, унука і ўнучку.*

*Вершы пачала пісаць у сталым узросце.*

### Беларуская мова

Мова матчына, бацькава мова –
Беларуская мова мая!
Яе дзіўнае кожнае слова,
І гучыць, быццам спеў салаўя!
Нібы сонейка ў шчасці і горы
Ласку дорыць, як звон ручая,
Аб мінулым са мною гаворыць
Непаўторная мовая мая.
Забівалі, гразёй аблівалі –
Паўставала, стагоддзі жыла.
І любіць нам яе не давалі –
Мова роднай, як маці была.
Не цурайся, мой  дружа, вытокаў,
Зразумееш і ты спакваля:
Трэба мову падняць нам высока,
Каб прызнала яе ўся зямля!





### Памяці бацькі

Не памятаю бацькі я свайго,
Загінуў ён ля Проні – нашай рэчкі,
Пражыў ён трыццаць два гады ўсяго,
Не пасталее болей бацька мой – адвечна.

Ад роднай вёскі блізка тая рэчка,
Растанне ж усё доўжыцца жыццё,
Ён ваяваў, здаецца, недалеча,
Ды назаўжды пайшоў у небыццё.

Тут не вада – ракою кроў лілася,
Фронт тутка дзевяць месяцаў стаяў.
Фашыст, як звер шалёны, агрызаўся,
Зямлю паліў – трымаў, не аддаваў.

Ліст атрымала маці ў сорак трэцім:
«Ваш муж, прапаў без весткі на франтах».
Засталася ўдавой, малыя дзеці...
Дзе дзеўся чалавеча? Жыццяў крах...

Дзяцей было пяцёра. Так багата!
Адзін другога менш – вось скарб увесь.
А муж прапаў, згарэлі рэчы, хата –
Хоць у пятлю ад гора маці лезь.

Дзе бацька пахаваны, дзе магіла,
Каб праху пакланіцца мы маглі?
Смерць абаронцаў нашых парадніла:
Старыя, маладыя – паляглі...

Прайшлі мы праз такія здзекі, мукі –
Балюча ўспомніць, цяжка расказаць,
Нас лашчылі матулі нашай рукі –
Паклон цяпер павінны ёй аддаць.

Паклон і вам – загінуўшым, жывым,
Радзіму засланіўшым ад навалы.
Каб сонейка свяціла нам – не ім,
Дзяцей і ўнукаў радасць сагравала.

**Радзіма**

Іду – лясныя ўсё сцяжынкі,
У неба я блакіт гляджу,
Плывуць па небу аблачынкі
Кудысь далёка. За мяжу?

Жывецца ўтульна і прыгожа,
Шчаслівыя – нібыта ўсе.
Не, жыць не ўсякі ў шчасці можа,
Бо рай будуюць пакрысе.

Радзіму пакідаюць людзі,
І шлюць лісты нам з-за мяжы.
Мо гараваць там, плакаць будуць,
Што дужа рай той ім чужы?

Не тыя там плывуць аблокі,
Не тая мова там гучыць,
Маркотна там і адзінока –
У Беларусі трэба жыць.

Усё тут роднае так блізка:
Пейзаж, і рэчка, і ралля,
Самотны помнік, абеліскі –
Тут родная бацькоў зямля.

Другой зямліцы мне не трэба,
Тут нарадзілася, жыву.





Каб паспытаць чужога хлеба,
Турысткай за мяжу плыву.

Вайна прайшла па нашых вёсках,
Наш кожны трэці – у зямлі.
Сумуюць белыя бярозкі
Аб людзях плачуць на раллі.

Чарнобыль – чорная навала,
Чарней якой і не было,
Зямельку раптам напаткала,
Бы джала болем апякло.

Не гледзячы на ўсе напасці,
Што нам сустрэліся з табой,
Усё ж, якое гэта шчасце –
Жыць на Радзіме дарагой!

**Майму народу**

Было і прыкра і балюча
За беларускі мой народ:
Такі нясцерпны боль, пякучы,
І доўжыўся ён з года ў год.

Абцас чужынцаў з веку ў век
Гаротную зямлю таптаў.
Цярпеў пакуты чалавек,
Праклёны – у раллю кідаў.

Настаў нарэшце час збавення,
Свабода – нібы дар нябёс,
Адчуўшы неба багаславенне,
Малюся за народа лёс.

цовым супрацоўнікам міліцыі ў Маскоўскім раённым упраўленні ўнутранных спраў. З дзяцінства яны былі ўжо на спецыяльным уліку міліцыі. Са з'яўленнем новай тэхнікі, камп'ютарнай базы дадзеных аб злачынствах, аб раней судзімых, аб зброі і т.д., дадзеныя былі аб'яднаны і цэнтралізаваны.

Не, не хацеу Мяшок, зусім не хацеў пайсці на зону. Ён выбіраў свае ахвяры ў другіх раёнах горада Мінска. Старыя людзі маюць слабае здароўе, дрэнна бачаць, крыўдзяцца на памяць. Усё гэта было для яго, злодзея і махляра, дапаможным элементам. Цяпер ён яшчэ ў кішэні, акрамя фальшывага пасведчання, меў велізарныя акуляры. Не, не хацеу Мяшок свайго хуткага выкрыцця ў крадзяжы ўзнагарод, пагэтаму вырашыу перастрахавацца і забяспечыць такім чынам змену свайго твару.

Сёння, перад Святам Перамогі, ён рашыў наведаць некалькі ветэранау вайны ў горадзе Барысаве. Іх прозвішчы, адрасы ён даведаўся ад ветэранскай арганізацыі, куды завітаў як фотакарэспандэнт адной са сталічных газет.

Седзячы ў электрычцы, падстаўны фотакарэспандэнт разглядаў адну з газет. Яго зацікавіў артыкул, распавядаўшы аб барацьбе ў гады вайны і жыцці ў цяперашні час гераічнай жанчыны Марыі Казей.

«Казей, Казей... Дык гэта сястра знакамітага героя Марата Казея, якая таксама мае ўзнагароды,» – ажыўлена будаваў свае цёмныя планы аматар чужых медалёў. З газеты ён даведаўся, што ў гераічнай жанчыны пад час вайны былі адмарожаныя абедзьве нагі, цяпер яна інвалід і жыве ў Савецкім раёне горада Мінска. Артыкул так зацікавіў чытача, што ён некалькі разоў перачытаў яго. У галаве яго рабілася амаль вар'яцтва, думкі несліся хутчэй цягніка. Ён ужо прадстаўляў жаночы чорны пінжак, на якім шмат мадалёў з ардэнамі. На твары чытача з'явілася хітрая, крывадушная ўсмешка. Нейкае ап`яненне ці нават лёгкі кайф ад малой дозы наркатычнага рэчыва наведала яго душу. Відаць, ад прачытанага, а мо, ад хуткіх думак, настрой яго ўзняўся і чытач адкінуўся спіной назад і, закрыўшы вочы, пачаў марыць.

Электрычка хутка набліжалася да Барысава, ужо па радыё перадалі аб прыпынку. Мяшок некалькі разоў прагладзіў рукой па газеце,





склаў яе ў сваю паходную сумку і дастаў адтуль фотаапарат. Людзі з вагона пацягнуліся да выхада. Састаў качнуўся і замер ля вакзала. Мяшок на хаду перакінуў рэмень ад фотаапарата цераз шыю і выйшаў з вагона электрычкі.

Вясновае сонейка падымалася ўсё вышэй. Горад красаваўся ў зелені і чырвоным убранні, што падрыхтавалі да свята. Малады чалавек з фотаапаратам на грудзях і сумкай у руцэ жмурыўся ад яго ззяння. Ён, усміхаючыся, прадчуваў, што ўсё будзе, як у мінулыя разы. Але думкі яго віталі там, у недалёкім будучым, ён ужо намеціў план супраць гераічнай жанчыны Марыі Казей.

– Заўтра свята, адбудзецца шэсце ветэранаў, трэба мне таксама патрапіць туды, – так марыў, ідучы па горадзе адзін з тых, хто завецца маладое пакаленне. Мабыць, адзін з тых, хто будзе планаваць і будаваць гарады, адзін з тых, на каго будзе абапірацца дзяржава, падтрымка і апора бацькоў і дзядоў нашых? Яму і яго пакаленню выпала, пашанцавала, падаравалі лёс і яны, ветэраны вайны добрае і шчаслівае жыццё. Толькі як яго выкарыстуе ён, дваццацішасцігадовы малады чалавек?

**8.**

Пяцьдзесят пятая гадавіна Дня Перамогі святкавалася па ўсёй краіне са шчырым размахам, асабліва ў горадзе Мінску. Мясцовая ўлада зрабіла ўсё, каб забяспечыць ветэранаў і іх сем'і ўсім неабходным. Медыкі, сацыяльныя работнікі, гандаль, бытавое абслугоўванне былі праінфармаваны аб першачарговым забеспячэнні ветэранаў вайны. У красавіку стаматолагі запрашалі да сябе ветэранаў, каб без кошту лячыць зубы. Вадзіцелі маршрутнага таксі не бралі грошы з ветэранаў вайны ў дзень свята. З тэлеэкранаў і па радыё гучалі віншаванні і пажаданні, патрыятычныя песні і песні аб вайне, перамозе, песні ваенных гадоў. У гэты яркі і сонечны дзень уся краіна і яе грамадзяне ўшаноўвалі сваіх герояў.

Сярод тых, хто прыйшоў на ўсенароднае свята ў цэнтр горада, быў і малады чалавек з фотаапаратам. Такіх, як ён, з фотаапаратамі ці з відэакамерамі, было шмат. Яны здымалі знаёмых і незнаёмых, адзінокіх ветэранаў і сумесна з сябрамі-аднапалчанамі, старых у ваеннам адзенні, шчаслівых маладых людзей і дзяцей. Толькі ён,

Мяшок, нібы кагосьці шукаў у людскім натоўпе. Грамадзяне з кветкамі, шарамі, чырвонымі і чырвона-зяленымі сцягамі працягвалі шэсце да цэнтра горада.

Вось ля ГУМа аднаму з ветэранаў стала кепска, ён дакрануўся да грудзей і адышоў у бок.

«Па усім відаць, хворае сэрца,» – адразу заўважыу пра сябе малады чалавек з фотаапаратам. Трэба дапамагчы.

Ён хутка трапіу да старога чалавека, які спыніуся ля дрэва. У гэты момант яго апярэдзілі міліцыянеры, якія неслі службу побач. Яны таксама звярнулі ўвагу на гэтага старога, выклікалі хуткую дапамогу, запісалі дадзеныя хворага і нумар брыгады медыкаў. Так патрэбна, і гэта правільна. А можа, хто-небудзь будзе шукаць гэтага чалавека, калі той не зможа даць аб сабе знаць?

«Вось зараза, каб вас разарвала!» – так вылаяўся Мяшок у адрас міліцыянераў, якія ўвесь час былі побач з хворым. Мяшок злаваўся, што яго апярэдзілі стражы правапарадку.

Шэсце ветэранаў працягвалася па праспекце Скарыны, галоўнай вуліцы горада Мінска. Следам ішлі простыя людзі, хтосьці з сябрамі, нехта з дзецьмі, сем'ямі. У добрым настроі, з кветкамі і рознакаляровымі шарамі, яны рухаліся да цэнтра горада, помніка Перамогі. Сярод іх крочыў і ўсміхаўся той малады чалавек з фотаапаратам на грудзях. Ён ішоў і марыў, каб набыць новую ахвяру, яму патрэбны іх ардэны і медалі, а гэта грошы, за якія ён будзе мець усё. Прадчуваючы добрую нажыву, ён зларадна пасміхаўся

«Абавязкова пашанцуе, – думаў пра сябе Мяшок. – Такое вялікае свята, шмат ветэранау, трэба з кімсьці з іх пазнаёміцца».

І ён пачаў актыўна дзейнічаць. Выбіраюцы адзінокіх ветэранаў, ён шчыра віншаваў іх, не скупячыся на пажаданні. У канцы дня ў сваёй кішэні Мяшок меў спіс, дзе налічвалася чатырнаццаць адрасоў былых вайскоўцаў – ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.

Яму вельмі спадабалася, што большасць з іх жывуць адасоблена, далёка ад дзяцей і ўнукау.

«Ужо заўтра зноў пачну сваю дзейнасць па адыманню ўзнагарод у былых франтавікоў,» – блукалі думкі ў ягонай галаве...





***ВЯЧЕСЛАВ ДАНИЛОВ***

*Родился 31 августа 1970 года в г. Торез Донецкой области Украины. По образованию – бухгалтер. Пишет стихи с шестнадцати лет. Участвовал в 14-ти коллективных сборниках, в том числе в «Антологии современной русской поэзии Беларуси». Состоял в редколлегии альманаха «Панядзелак». Печатался во многих республиканских газетах и журналах, среди которых «Неман», «Немига Литературная» и др. Автор книги стихов «На ладонях тишины» (2008 год).*

**Маме**

Благодарю за снежный пух
И дождь осенний на руках.
За то, что я ни слеп, ни глух,
За утро в белых облаках.

Что я осмысленно в окно
Могу вглядеться в тишине,
За всё, что лишь тобой дано,
За жизнь, что подарила мне.

***

От всей  души желаю Вам
Воздвигнуть с куполами храм,
Чтоб вера в тех стенах жила,
Хватало всем её тепла.

Чтоб знали все, куда идти
Через сугробы на пути,
Чтоб каждый там духовно рос
Оставив в прошлом реки слёз!

***

Как одиноко без тебя,
Я понял лишь сейчас.
И, что такое ждать, любя,
Изведал в первый раз.

Большие серые глаза
Ночной экспресс унёс,
Я не успел тебе сказать,
Что я влюблён всерьёз.

Сказать, нисколько не шутя,
Что плохо будет мне,
Когда вагоны улетят
Навстречу тишине.

***

Я тот, кого застать врасплох
Уже не так-то просто.
Я тот, кому не нужен вздох
И лишние вопросы.

Вокруг меня уже не те,
Не те, что были раньше…
И я уже не в темноте,
И не в объятьях фальши.

Меня уже не злит давно
Всё то, что раньше злило…
И я уже смотрю в окно
Теперь не так уныло.





Мой голос стал звучать ровней,
Всё чаще улыбаюсь,
И в суете дождливых дней
Уже не потеряюсь.

Меня не ранят те слова,
Что сказаны невеждой…
Теперь, ребята, чёрта с два,
Расстанусь я с надеждой!

***

Шпили высоких костёлов
Небо вечернее ранят.
Солнце от дум невесёлых
Красным тюльпаном завянет.

Птицы покинули гнёзда.
Нет больше листьев зелёных.
Тучи укутали звёзды
Шумом дождей не рождённых.

***

Все правильно, аж зло берёт.
Всё сходится, как надо.
По небу солнышко плывёт,
Сменяя звездопады.

Судьба хранит меня от слёз.
Удары все отводит.
И если трудно мне всерьёз –
На выручку приходит.

Хранит меня от зла и бед,
На славу охраняет.
Врагов, что были, больше нет –
Она всех убирает.

Всё правильно, аж зло берёт.
Всё сходится, как надо.
А мне бы всё наоборот, –
Чтоб только ветер рядом!

***

Пустые мысли. Смысла нет в словах.
Приблизиться к Светилам – лишь мечта.
Слезу из глаз выдавливает страх.
А за спиной зияет пустота.

Не понимая многого, живу.
Стираю о дорогу башмаки.
Топчу асфальт. И кое-где траву.
Летать мне, к сожаленью, не с руки.

***

Стихам снижается цена:
Лежат на полках и пылятся.
Я вдруг подумал у окна:
«Не стоит даже и пытаться
Писать и складывать. И вновь
Раздумья класть мне на бумагу…
Про дружбу, веру и любовь,
Про бескорыстие, отвагу.
Всё это – старый нафталин,
Уже не действующий даже…





Пишу не только я один,
И кто угодно это скажет».

***

Видит Бог: я от обид ещё не плакал,
Только челюсти сжимались всё сильней.
Я на душу, что давно уже в заплатах,
Нашивал ещё одну заплату поскорей.

И никто не видел круче оптимиста,
И никто не верил в лучшее, как я!
Пусть на небе, на моём ещё не чисто,
Но придет моя минута, лишь моя!

И тогда мы все посмотрим, что случится!
И тогда ещё посмотрим, чья возьмёт!
Правда, может ничего не получиться,
Но минута просто так не пропадёт!

**Мне надоело**

Все в масках, париках, все как один, –
Кто сказочен, а кто литературен.
Сосед мой слева – грустный Арлекин,
Второй палач, а каждый третий – дурень.
*В. Высоцкий*

Мне надоело прятать чувства.
И не бывать самим собой,
И улыбаться, если грустно,
И веселиться, если злой.

Мне надоело быть игрушкой,
Пусть даже в любящих руках,

Каким-то тряпочным Петрушкой,
Что шевелится пальцам в такт.

Я был под стать марионетке,
И каждый вечер вновь, опять
Изображал жар-птицу в клетке –
Ту, что не хочет улетать.

Мне надоело прятать чувства,
За медный грош день ото дня
Купаться в море лже-искусства –
Оно уже не для меня!

***

Одним мазком напишет ночь
Тяжелых снов свою картину,
Сегодня прошлое отрину,
И в этом смогут мне помочь
Рассвета белых два крыла,
И жёлтый лист в бездонной луже,
И ветер, что запел снаружи
Такого хрупкого стекла…

***

Юный клён мягкотелый
Пожелтевший свой фрак
Сбросил в лужу несмело,
Погружаясь во мрак.
Отдыхают берёзы.
Мрачный город затих,
А соленые слёзы
Огорчают триптих.





***

Зашевелились мысли в голове,
Как только ночью тёмною проснулся.
Поют кузнечики зелёные в траве,
Печальный месяц в реку окунулся.

Хотелось очень многого достичь…
И не лежать в обшарпанной кровати.
Но на Луне газонов мне не стричь –
Отваги и умения не хватит.

***

Я стал какой-то равнодушный
Ко всем. И ко своей судьбе.
Я чувствую себя ненужным
Другим. И самому себе.

Живые умирают краски,
Теряют свой весёлый цвет.
Все люди вдруг надели маски,
И лиц открытых больше нет.

И я, как все, имею маску.
Душа в мажоре не поёт.
В добро не верит больше, в сказку,
В ней вера в Бога не живёт.

Не отыскать уже надежды
На солнечный грядущий день.
Эх, верить мне бы, как и прежде,
Но вот она – от маски тень...

***

Огонь умирает под слоем золы.
Ладоней твоих не согреет костёр.
Ветра этой ночью особенно злы.
И скрылся за тучами месяц. Хитёр.

***

Словно мальчишка, смеётся
Пухом летающий снег,
С неба набрав свой разбег
И оторвавшись от солнца.

Дом погружает в сугроб
Ставни окошек незрячих.
Будет пурга. Не иначе.
Бьёт бедолагу озноб.

***

Как я люблю тебя – никто еще не замечает.
Да я и сам ещё не в силах отменить.
Кому сказать – ведь скажут: «Не бывает,
Что можно просто фотографию любить.

Ведь фотография – бумага лишь простая,
С названьем «фотка» – только и всего».
Изображение на ней живым не станет
От дерзкого желанья моего.

На сердце тяжко. О несбыточном мечтаю…
Ты где-то в Лондоне читаешь «Монинг стар»,





А я о юности босяцкой вспоминаю
В красивом городе российском Краснодар.

***

А может, всё и делается к лучшему?
И нужно, чтоб сегодня я грустил?
Чтоб город отражался снова лужами.
И мокнул под дождем. И серым был.

И будет небо радугой украшено.
И мы пройдём в хрустальной тишине.
Ты ни о чём, пожалуйста, не спрашивай,
А лишь побудь со мной наедине.

***

Дыханье холода. Беды.
Тепла завьюжены следы.
Разрушен здесь старинный храм.
И бродят тени по дворам.
Растоптан Дух Святой, Христос.
И тонет Свет в истоках слёз.
Вокруг снега. И стынет кровь.
Забыта радость. И любовь.

***

Сколько на землю упало дождей?
Сколько растаяло белых снегов?
Сколько ещё потеряю друзей?
Сколько придёт их на место врагов?

***

Давно не виделись, малыш!
А ты одна... Куда спешишь?
Быть может, нам с тобою по дороге?
Среди толпы и срочных дел
Я предложить тебе хотел:
«Давай забудем все печали и тревоги!»

Открою я тебе секрет,
Кого люблю я столько лет.
И без кого мне в жизни этой очень плохо.
Давай пойдём потанцевать,
Как в прошлый раз, сейчас опять –
Повеселимся и развеемся немного.

Давай зайдём куда-нибудь,
Чтоб просто вместе отдохнуть.
Зачем нам время коротать поодиночке?
Ведь вечер ласковый такой!
Не зря мы встретились с тобой!
О том и звёзды нам толкуют, между прочим…

***

Растерзают темноту ножами фар,
Пробегая мимо окон, «легковушки».
Я от вечера с почтеньем принял в дар
Сны, что спрятаны в перине под подушкой.

Хорошо, когда в квартире тишина,
Ровный ход будильника чуть слышен.
Чашка кофе мною выпита до дна,
Чёрной кошкой примостилась ночь на крыше.





***АЛЕКСАНДР ЗМУШКО***

*Родился 10 апреля 1981 года в Минске. Окончил факультет биологии Белорусского государственного университета по специальности «биотехнология». Научный сотрудник отдела биотехнологии РУП «Институт плодоводства» РБ (направления работы: «Генетическая изменчивость яблони в искусственных условиях» и «Коккомикоз – грибное заболевание вишни»).*

*В основном работает в жанрах научной фантастики, фэнтези, альтернативной истории, детской сказки, постмодерна. Имеет печатные публикации (в издательствах «АСТ», «Эксмо», журналах «Космопорт», «Уральский следопыт», газете «Виртуальные радости» и др.), победы в литературных конкурсах (за рассказ «Девушка у горы Коя-сан» занял третье место на конкурсе «Согласование времён» (2012 г.)), озвученные произведения («Клятва Марьям», журнал «Фантаскоп»). Автор художественных статей: «ОБЖ: как выжить в объятиях монстра» (журнал «ФанCity») и др. Принимал участие в организации литературного конкурса «Фант Доп-2013» на базе издательства «Аэлита». В настоящий момент является директором литературного кружка «Школа ЭФ» базе форума «Эксмо» (с 2015 г.). Литературный псевдоним – Саша Тэмлейн.*

**Город и маска**
*(Сказка-фантазия)*

Однажды в город пришёл человек с тысячей масок. Он пришёл в яркий, погожий день: флаги полоскались над ратушей, словно разноцветные языки драконов, небо было чистым, будто тётушка Филла протёрла его тряпицей, и даже камни мостовой блестели нарядно, желая казаться поделочными.

При входе в город на нём была маска из слоновой кости.

Он держал у губ трубочку, с помощью которой напевал незатейливые мелодии. В руках он нёс букет обычных полевых цветов – васильков и ромашек, а одежда его была пыльной – обычной одеждой для странствия.

Уголки рта на его маске изгибались вверх.

На улице Прожорливых глоток он встретил маленькую девочку и вдруг опустился на одно колено.

– Как тебя зовут, дитя моё? – спросил он мелодичным, переливчатым голосом.

– Амели, – сказала она.

– Этот букет тебе, Амели, – сказал он.

– Ой, правда?

А человек в маске уже шёл дальше.

В переулке Бродячих котов он засунул старую маску в мешок и вытащил новую – изящную маску из светлого дерева, и её полные губы были чуть приоткрыты, будто смеялись. На площади перед ратушей, он встретил девушку, чья верхняя губа будто дразнила его чуть порочным изгибом, как будто просила поцелуя.

Человек в маске вновь опустил руку в мешок – и вытащил оттуда невероятной красоты розу, сработанную из латуни.

– Я пронёс её через пустыню и море, – сказал он. – И она достойна тебя – той, чья красота подобна освежающему ветерку, стекающему ночью со звёзд.

– Ой, правда?

Девушка взяла розу, запунцовела и отвернулась.

Третью маску человек надел чуть позже – маску одутловатого, Добропорядочного зажиточного Горожанина, с вислыми усами.

Зайдя в трактирчик «Шустрая пони», он присел за столик к тучному, огненнобородому завсегдатаю и предложил:

– Почтеннейший! Я здесь недавно, но если Вы расскажете мне о вашем дивном, вне всякого сомнения, городе, я почту за честь отблагодарить Вас тем, что оплачу обед.

– Я тоже могу рассказать, – сказал красноносый по соседству.

– А Вам я оплачу пиво, – учтиво согласился человек в маске.

И вот так он вскоре стал для дочери горшечника – чудным любовником, для Амели Понд – куртуазным ухажёром, для стропильщика – компаньоном по выпивке, для пивовара – отличным советником, и для всех жителей города – самым близким, самым настоящим другом, которого только можно представить.

Он прожил в городе недолго: может, весну, а может, две.

Дочь стропильщика получала от него подарки, Амели – цветы и забавные безделушки, которые он вырезал из дерева, стропильщик – регулярно получал свою пинту пива по выходным, а пивовар беседовал с ним о разных дальних странах и сортах пива: от лагера до тёмного бока. И все, даже пастор были убеждены: человек в маске – очень славный человек!





«Самый настоящий славный приятель – говорил про него мажордом. – Где ещё такого сыщешь! Только скрытный немного».

«А так даже и лучше, – уверяла дочь горшечника. – Так бы приелось одно лицо, а так целуй и целуй разные маски!»

Но со временем жителям города захотелось узнать о человеке побольше.

– Почему бы тебе не снять маску? – напрямую спросил мэр. – У нас в городе ничего скрывать не принято!

– Да, но ведь я так привык, – защищался гость, впрочем, уже давно ставший своим парнем, да и вообще – во многих заведениях – завсегдатаем.

– Привык – не привык, – сурово сказал мэр. – А это дело такое! Снимай маску, и дело с концом! Мы самоуправства не потерпим!

– Или что? – тихо сказал человек.

– Или уходи из города!

Мэр распалился, его вислые щёки пылали.

– Ладно, – сказал человек.

Никто не думал, что он на самом деле уйдёт.

Никто не видел, как он ушёл.

Тихо, в неясный предрассветный час, он увязал свои тюки, пересыпал в мешки, купленные на рынке безделушки, подпоясал свою старую, невзрачную дорожную одежду, и пустился в путь. У его маски уголки губ были опущены.

Когда он вышел из города и тот остался далеко-далеко, а кругом – лишь пыльная равнина, бурьян и чертополох, человек сел на землю и снял маску. Под ней оказалось невзрачное лицо, рыжеватые волосы, торчащие клоками, и мутно-водянистые глаза. На вид ему было лет двадцать пять.

Человек плакал.

– А что, если они не примут меня таким, какой я есть? – сказал он фразу, казалось, повторяемую столько раз, что она мраморно запечатлелась в уголках его губ.

Наконец, он утёр глаза и поднялся.

– В мире ещё много городов, – сказал он. – Попробую ещё раз.

Он одел маску из слоновой кости, уголки её губ были подняты, выудил из сумы свирель и принялся насвистывать подбадривающую себя саму мелодию. Более не оглядываясь, человек пошёл вперёд – там виднелось поле с ромашками и васильками...

**_ТЭРЭЗА КАВАЛЬЧУК_**

*Нарадзілася 17 красавіка 1962 года ў Свіслацкім раёне, у вёсцы Студзенікі, каля маляўнічай Белавежскай пушчы. Працуе загадчыкам бібліятэкі ГУА «Гімназія № 2 г. Ваўкавыска». Стаж працы 31 год.*

*Яшчэ вучаніцай у часопісе «Бярозка» друкавала дзіцячыя вершы. Напісала і выдала ў выдавецтве «Экаперспектыва» тры метадычных дапаможніка для бібліятэкараў і настаўнікаў: «Уроки информационной культуры» (2009), «Сценарии массовых мероприятий для школьных библиотек» (2010), «Данесці цудоўны скарб…» (2013). Друкуе артыкулы ў часопісах: «Бібліятэка прапануе», «Здаровы лад жыцця», «Экалогія», «Роднае слова», «Народная асвета», «Качели», раней друкавалася ў часопісах: «Читаем. Учимся. Играем», «Берегиня дома твоего».*

## Жэбра

*(Апавяданне)*

Непадалёку ад вёскі Елка жыў малады пан у сваім прыгожым маёнтку, якім можна было любавацца цэлы дзень, гледзячы на яго вежы. А вось сам паніч быў такі брыдкі, што нават не мог ажаніцца, хоць і быў багаты, і нават людзі гаварылі, што добрае меў сэрца. У вёсках, якія знаходзіліся пад яго уладай, людзі не скардзіліся, як гавораць «жылі, не тужылі». Паніч не здзекваўся над людзьмі. Той, хто добра працаваў, меў сваю гаспадарку. Некаторыя нават любілі свайго паніча і не жадалі яму дрэннага. Вёска Елка не была пад уладай паніча, таму тут людзі жылі вельмі бедна. З горада прыязджаў раз на два тыдні стары пан Аляксандр і абдзіраў людзей, як тую ліпку.

Сям’я Цагельнікаў жыла бедна, у іх было сямёра дзяцей. Горш за ўсё было пракарміцца зімой, калі заканчвалася бульба. Бацька Васіль быў вымушаны старэйшую дачку Адэлю апраўляць пабірацца па другіх вёсках. Праз некаторы час у вёсцы яе сталі называць не па імені, а далі мянушку Жэбра. Адэля нават спачатку з-за гэтага плакала, але потым не стала на гэта звяртаць увагі.





Старэйшы за Адэльку быў Янка, але ён быў патрэбны для работы, яго нанімалі ў вёсцы як парабка, і за гэта давалі хлеб. Дзяўчынцы першы раз было сорамна хадзіць па незнаёмай вёсцы і прасіць міластыню, але яна праз некалькі тыдняў прывыкла. Вось толькі ногі пакрыліся вадзяністымі мазалямі і балелі, асабліва ноччу. Людзі ёй пападаліся добрыя, распытаўшы перш пра сям’ю, затым давалі хто што мог: хто бульбы і цыбулі, хто акраец хлеба, а некалькі разоў пашанцавала: далі сала. Але больш за ўсё шанцавала Адэльцы тады, калі яе запрашалі за стол і давалі ў рукі акрайчык хлеба і налівалі гарачай стравы. Яна перш за ўсё аб міску грэла свае задубеўшыя і непаслухмяныя рукі, а затым з вялікім апетытам ела прэсны крупнік, і ёй здавалася, што смачней яго нічога не існавала.

Як толькі яна прыносіла свае здабыткі, да яе, як на крылах, зляталіся галодныя дзеці і хапалі, што толькі маглі, нават жавалі сырую бульбу. А потым бацькі забіралі ў іх з рук усё, і матка пачынала распальваць пліту і гатаваць страву. Накарміўшы ўсіх, гладзіла карміліцу, якой было толькі восем гадкоў, потым укладвала яе спаць. Адэльцы дазвалялі адпачыць адзін дзень, а потым зноў выганялі з хаты. Яна не крыўдзілася, сама бачыла, якая бяда і галеча пасялілася ва ўсіх кутках іх старой хаты.

З цягам часу яна ўцягнулася ў гэтыя вандроўкі, прывыкла думаць, што другога выйсця проста няма, бацькі не маглі пракарміць іх вялікую сям’ю. Разам з ёю не было каго адправіць. Брат, які нарадзіўся пасля Адэлькі, быў хваравіты і кульгаў на левую нагу, а астатнія былі зусім малымі.

Усё было, як і ў мінулым годзе. Адэлю ўжо пазнавалі ў чужых вёсках, але шкадавалі, як і раней. У адной хаце дазволілі пагрэцца, і адпачыць. Яна, узрадаваная ад непрадбачнага адпачынка, папрсіла дазволу пакалыхаць у люльцы немаўлятка, а потым нечакана, адагрэўшыся ад завеі, заснула, а калі прачнулася, засабіралася ў дарогу. Гаспадыня, паглядзеўшы на стомленае дзіця, запрасіла яе нават на начлег, але Адэля адмовілася – не таму, што была не стомленая ці не хацела начаваць у чужых людзей, не, яна прывыкла спаць, дзе папала, тут справа была зусім не ў гэтым. Бульбу, якую ёй надавалі людзі прыхапіў мароз, яе трэба было як мага хутчэй данесці да дому. Калі яна пацячэ, будзе нясмачнай. Таму яна, без вялікага жадання, вый-

шла на парог добразычлівага дома, забраўшы свае клункі, і рашуча затупала па снезе, шургаючы сваімі лапцямі.

Ісці было цяжка, груз цягнуў яе да зямлі, балелі ад торбы плечы, ад клункаў рукі, але яна цярпела. Цярпела і ўяўляла, як узрадуюцца яе маленькія сёстры і браты, пабачыўшы, што ёй дала гаспадыня, у якой яна калыхала маленькае дзіця. Гэта быў не хлеб, не – гэта быў проста цуд! Маленькія, кругленькія, нібы сонейка, пахучыя булачкі. Калі добрая гаспадыня гэты хлебны скарб Адэльцы перадала, ёй захацелася адразу ўсе іх праглынуць, але яна, панюхаўшы і абліз- нуўшыся, акуратна загарнула іх у чыстую анучку. Якое права яна мае есці такі цуд, калі дома малыя дзеці: Ядзюнька, Насця, Верунька і самая маленькая Анютка, – яна іх вельмі любіла. Яны такога цуда, як гэтыя булачкі, і не бачылі нават. Калі ў іх была такая якасная мука, то мама ім гатавала з яе смачную зацірку. А на Каляды мама выпякала вялікія смачныя караваі. Успаміны пра галоўнае свята адагналі ад дзяўчынкі страх перад завірухай і марозам, які ўсё крапчэў.

Адпачыць Адэлька баялася, яна можа сесці і не заўважыць як замерзне, пагэтаму трэба тупаць знямоглымі нагамі, не затрымліваючыся. Так яна вырашыла таму, што ўзгадала пра тое, што ёй раіла мама, калі адпраўляла жэбраць. Мароз крапчэў, а змерзлыя ногі перасталі слухацца, як бы пратэставалі ўсяму знямоганаму целу. Неўзабаве дзяўчынка зачапілася за нябачны ў снезе камень і паляцела разам са сваімі торбамі на заснежаную сцяжынку. Адэля балюча разбіла каленку, на якой адразу цераз панчошку праступіла кроў, але на гэта яна не звяртала ўвагу, трэба было ісці далей. Адэлька паднялася, атрахнула прамёрзлыя рукі і свой андарак і рушыла ў дарогу. Рана балела і замінала пераступаць, кроў адбілася на другой назе і яны паміж сабой змярзаліся, трэба было з болем іх раздзіраць. Гэта яшчэ больш раз'юшыла рану, і за дзяўчынкай цягнуўся крывавы след. Праз некальмі метраў яна не магла ўжо пераступаць нагамі, такая слабасць была ва ўсім целе, што яна, як падкошаная, павалілася на сцежку.

Спачатку было холадна ляжаць, а потым яна заснула і перастала адчуваць холад. Яна сніла маму і сваіх галодных сястрычак, яны елі прынесеныя нібыта ёю цудоўныя булачкі, і змярцвелыя пасінелыя вусны дзяўчынкі кранула ўсмешка. На яе стаў сыпаць бялюткі снег,





і праз некаторы час пакрыў бы яе цалкам, але на шчасце па гэтай якраз дарозе, а другой там і не было, ехаў малады паніч Юльян. Ён задумліва глядзеў на дарогу і разважаў наконт цяжкай долі сваіх сялян. Яму вельмі хацелася палепшыць іх гаротнае жыццё, але ён не ведаў, як гэта зрабіць. Грошай у запасе ў яго не было – параздаваў абяздоленым людзям. Хваробы касілі малых дзяцей, старыя хаты хіліліся на бок. Паўсюль, куды б ён ні паехаў, яму ў вачах бачыліся жудасныя карціны яго збяднелых вёсак, і гэта яму замінала адпачываць, адхіліцца, павесяліцца на якім-небудзь балі.

Раптам погляд паніча Юльяна прыцягнулі крывавыя плямы на снезе. Перш ён падумаў, што тут бегла воўчая зграя, але пазней разгледзеў ляжачую на снезе постаць дзіцяці. Ён загадаў конюху затрымацца, а сам пабег да засыпанай дзяўчынкі, доўга яе трос, але яна была, як непрытомная, твар яе быў такі самы бялюткі, як той снег. Паніч падняў яе на рукі, панёс на воз, накрыў яе кажухом, на якім ён ляжаў, а затым, падумаўшы трохі, зняў з сябе кажух і ім таксама накрыў дзяўчынку. Па дарозе ў свой маёнтак Юльян расціраў яе рукі і шчокі, але арганізм змерзлай дзяўчынкі не вяртаўся да жыцця.

– Хутчэй грэйце ваду, – крыкнуў паніч жанчыне, якая вышла з маёнтка сустрэць яго.

Адэльку распранулі і ў сарочцы палажылі ў цёплую ваду. І Бог над ёю змілаваўся, яна адкрыла свае прыгожыя вочкі. Паніч вельмі ўзрадаваўся, і па сваёй дабрыні спачатку сам пакарміў з лыжкі дзяўчынку, а потым сам паеў з такім апетытам, што жанчына, якая працавала ў яго кухаркай, была ўражана ўбачаным. Шмат усяго новага прыйшлося паспытаць Адэльцы за тыя дні, калі яна знаходзілася ў маёнтку. Ніколі ў сваім кароткім жыцці яна не бачыла такой прыгажосці, ніколі так смачна не ела, ніколі так мякка не ляжалася ёй, і ніколі яна не бачыла такой дабрыні.

Адэльцы здавалася, што яна папала ў чароўную казку, што калі яна прачнецца, усё імгненна зменіцца, прападзе маёнтак, а з'явіцца яе бедная хата. На ранку яна баялася расплюшчыць вочы, нібыта гэта ўсё толькі сон. Кожны дзень яе праведаць прыходзіў паніч і распытваў пра яе сям'ю, і кожны раз яна пунсавела, калі распавядала пра сваіх бацькоў, братоў і сястрычак. Яна ўжо папраўлялася, і сёння абавязкова задумала падняцца з ложка і пахадзіць па маёнтку, але тут

яе думкі накіраваліся да сваёй хаты: «Што ж я нарабіла, мама думае што я недзе змерзла пад снегам, а я тут разляглася на мяккім матрасе і забыла пра сваіх родных. Хто ж я пасля гэтага?»

– Пане Юльян, дзякуй вам за ўсё, што вы для мяне зрабілі, але адпусціце мяне ўжо дамоў, я ўжо здаровая, і змагу дабрацца да сваёй вёскі. Бацькі мае лічаць мяне ўжо загінуўшай, і можа шукаюць, ходзячы па вёсках, – склаўшы рукі, як пры малітве, папрасіла дзяўчынка.

– Хопіць мяне ўжо дзякаваць, а пра бацькоў не турбуйся, яны ведаюць, дзе ты. Я перш-найперш распытаў у жанчын хто ты, і дзе жывеш, і перадалі пра цябе вестачку, так што можаш ачуньваць далей.

– Не, не магу, мае меншыя сястрычкі з голаду пухнуць, а я тут у вас адпачываю, – і слёзы пацяклі з вачэй дзяўчынкі.

– Ты памыляешся, яны больш не галадаюць, я перадаў тое, што ты нясла ў завіруху, і дадаў трошкі сам.

– Ну, вось, а вы кажаце, хопіць дзякаваць, я не толькі дзякаваць, я маліцца за вас ўсё жыццё буду, – прамовіла Адэля.

Паніч пажартаваў гаворачы, што трошкі дадаў. Яго конюх адвёз да бацькоў дзяўчынкі цэлы воз харчоў, ён не хацеў, каб такая танюткая, прыгожанькая дзяўчынка жэбрала па вёсках. Маці яе, убачыўшы прадукты, аж рукі зламыла, ніколі за ўсё сваё жыццё яна такога багацця не бачыла.

Праз некаторы час Адэля вярнулася ў сваю хату, але ж болей жэбраць яна не хадзіла, таму што некалькі разоў за зіму ім ад паніча прывозілі муку, сала, бульбу, рэпу і многа іншага, без чаго нельга выгадаваць здаровых дзяцей. Адэлька доўга помніла пра паніча, і хоць усе гаварылі, які ён брыдкі, для яе ён быў самым прыгожым юнаком з усіх, каго яна ведала. А можа, яна была закаханая ў яго, аб гэтым яна не ведала, і не хацела нават думаць пра гэта: хто ён і хто яна?

З цягам часу на дзяўчынку сталі паглядаць ўсе хлопцы акругі, а ў касцёле яна на сабе лавіла заўжды позірк высокага чарнявага хлопца, і ёй гэта было вельмі прыемна. Толькі адна акалічнасць пазбаўляла яе шчасця, паўсюль яе называлі не яе імем, а Жэбрай. Не ведала дзяўчынка, што гэтая мянушка да яе прырасце на цэлае жыццё. Старэйшы брат ужо быў жанаты, і маці падрыхтоўвала дзяўчынку да любой неспадзяванкі. Яна дала зразумець, што Адэля жыве цяпер ў хаце брата, і калі да яе хоць хто-небудзь пасватаецца, яе тут жа аддадуць за яго замуж.





– Мамулечка, а калі прыедзе ў сваты зусім стары чалавек, ты за яго таксама мяне аддасі замуж? – спытала спалоханая дзяўчына.

– Таксама, і не віні ў гэтым сваю матулю, бацька і брат твой так задумалі.

– Няўжо ты, дачушка, не бачыш, як цесна стала нам, калі твой старэйшы брат ажаніўся? – апраўдвалася маці.

– Бачу, але чаму я ў вас заўжды вінаватая? Жэбраць – мне, з хаты гоніце – таксама мяне.

– Такі твой лёс, будзь пакорлівай, не гняві свайго бацьку, ён табе дрэннага не пажадае, – пяшчотна пагладзіла па галаве дачку жанчына. Гэта было ўсё, што яна для яе магла зрабіць.

Гаспадар быў бязлітасны, ён свайго рашэння не памяняе. Адэля цяпер сябе адчувала, як шчупак на гарачай патэльні, жагналася, калі чула шум на вуліцы, малілася пастаянна. А калі толькі заплюшчвла вочы, нагадвалася ёй брычка прыгожая, а ў ёй стары з клюкай. Яна была ўпэўнена, што нічога добрага да яе берага не прыб’ецца, яна па жыцці няшчасная. Але яна памылялася, лёс яе, пры божай дапамозе, напэўна, распарадзіўся па-іншаму. Першым і апошнім сватоў заслаў той прыгожы юнак з дальняй вёскі Крамяніца, які ўжо амаль цэлы год зыркаў на яе ў касцёле, і так і не падышоў: ці быў сарамлівы, ці несмелы – ніхто аб гэтым не ведае. Адэлька аж знямела, калі ў хату зайшлі статныя, багата апранутыя людзі. Яна не верыла сваім вачам і свайму шчасцю. Далей усё: падрыхтоўка да вяселля, само вяселле, пераезд – праляцелі так хутка, што, толькі апынуўшыся ў хаце Адама, яна адчула палёгку і сваё шчасце. Але шчасцем цешыцца доўга не прыйшлося: на яе абурылася, не ведама за што, сястра яе мужа. Абзывала яе жэбра і ўбогай, вяла на яе паклёп бацькам і брату. Адэля цярпела гэтую ману, але толькі да выпадку з каровай. Бацькі Адама прадалі старую карову, каб потым падсабраць яшчэ грошай і купіць другую, таму што са сваіх цялят выходзілі толькі бычкі. Грошы бацька паклаў за ікону Божай Маці.

– Прызнавайцеся, хто ўзяў грошы, – зароў аднойчы на ранку бацька.

Усе стаялі каля печы і глядзелі на яе, на Адэлю.

– Я не брала грошы, паверце мне, – упала на калені і злажыла рукі, як пры малітве, цяжарная маладая жанчына.

Але ад яе ўсе адводзілі вочы, і нават яе Адам. Ніхто ёй не паверыў. Цэлы дзень Адэля плакала і прасіла, але дарэмна, таму вечарам яна пайшла тапіцца. Каля рэчкі пачула як штурхаецца ў яе целе яе дзіцятка, павярнула да сваёй вёскі, прыйшла да сваёй хаты, калі вёску ўжо накрыла цёмная ноч і пачалі мігцець зоркі на небе. Яе, знямоглую, паклалі на ложак, але заснуць не прыйшлося: праз гадзіну яна скруцілася ад жудаснага болю, і адчула макрату пад сабою, калі адкінула коўдру заенчыла на ўсю хату – яна была ўся ў крыві. Немаўлятка, а гэта была дзяўчынка, нарадзілася мёртвай, яшчэ быў малы тэрмін, толькі шэсць месяцаў. Адэля цэлымі днямі бесперапынна плакала, нічога не хацела есці, таму што перажыванняў ёй яшчэ дабавілася. Праз тры дня прыехаў на падводзе Адам. З парога пачаў прасіць прабачэння. Расказаў, што ён знайшоў гэтыя грошы, скрала іх яго сястра Франя, і перахавала пад бэльку. Адэля маўчала, адвярнуўшыся да сцяны. Потым Адам зразумеў усё, паглядзеўшы на яе жывот, і пачаў плакаць і біць сябе кулаком па галаве.

– Як ты мог ёй не паверыць, яна ж цябе так кахала, – дакарала зяця маці Адэлі.

– Чаму вы сказалі кахала, яна што, цяпер мяне не кахае, я ж за ёю прыехаў, – шаптаў Адам цешчы.

– Нікуды яна пакуль не паедзе, ёй трэба адляжацца пасля такога здарэння, – запратэставала маці Адэлі.

– Я да вас не вярнуся, хопіць нада мной здзеквацца, пайду лепш да пана Юльяна ў маёнтак за прыслугу, – гледзячы прама ў вочы свайму каханаму сказала Адэля.

Апусціўшы галаву, у задуменні ён выйшаў з хаты. Праз некалькі дзён прыехалі бацькі Адама, свякроўка плакала і прасіла вярнуцца. Праз гадзіну Адэля здалася, але, прыехаўшы, пашкадавала аб гэтым. Франя на яе глядзела так, як і раней – з нянавісцю. Ніякай віны сваёй яна не адчувала, але доўга гэта не працягнулася. Бацька яе не прабачыў, адмалаціў, цягаючы за косы, і сказаў, што аддасць замуж за старога Лёсіка.





– Ты што, з глузду з’ехаў, – крычала маці. – Ён жа хворы, суседзі наводзілі плёткі, што ён не можа нічога рабіць і збіраецца нават распрадаваць сваю гаспадарку.

– Нічога, хоць за чорта, але яе ў нашай хаце не будзе, – рашуча сказаў бацька.

Так ён пастанавіў, так і зрабіў. У хаце стала спакойна, душа Адэлі аж нарадвацца не магла, свякруха яе палюбіла як дачку, і яна адказвала ёй і адчувала да яе таксама такія пачуцці. Праз два гады Адэля нарадзіла сыночка Ванечку, а потым праз два яшчэ і яшчэ. Было ўжо ў іх хаце весела, бегалі адзін за адным шэсць дзетак. Бацькі Адама памерлі, але іх парадак у гаспадарцы і хаце падтрымліваў Адам, а дапамагала яму яго каханая жонка. Адно здарэнне азмрочыла шчаслівае жыццё гэтага сямейства: памёр стары муж Франі, і ёй трэба было пастаянна дапамагаць.

Адэля адпраўляла да яе за сем кіламетраў свайго мужа ўсё часцей і часцей, таму што Франя сябе адчувала дрэнна, а праз некаторы час і зусім злягла. Адэля вырашыла забраць яе з трыма дзецьмі ў сваю хату, за ёю патрэбны быў дагляд. Калі Адам прывёз яе і, несучы на руках, пераклаў на ложак, яна не вытрымала і заплакала, і пачала прасіць прабачэння ў Адэлі, якую не бачыла цэлых васемнаццаць гадоў. Адэля абняла яе, выцерла слёзы, і паабяцала, што ўсё будзе добра, яна яе вылечыць. Перш за ўсё Адэля памыла жанчыну, расчасала яе зблытаныя косы. Нацерла і памасажыравала схуднелае яе цела. Падбіла подушкі, і тут Франя схапіла яе за руку, Адэля аж схамінулася ад нечаканага яе руху.

– Прабач мяне, дурную, мяне не пакідае мінулае. Я не ведаю, што са мною тады было такое, я старая дзева, а ты да нас прыйшла такая малодзенькая і шчаслівая, і я пазайздросціла твайму шчасцю, і мне хацелася, каб табе так было дрэнна, як мне. Мяне ніхто не кахаў, а брат з цябе пылінкі здуваў. Ты, Адэлька, святая жанчына, я толькі цяпер гэта зразумела, калі ты мяне забрала і даглядаеш, як сваю сястру. Аб адным цябе прашу: калі мяне не стане, не кідай маіх дзетак.

– Я табе абяцаю, не кіну, і буду пра іх дбаць і клапаціцца, як пра сваіх, але ты ачуняеш, Франечка, я ў гэтым проста ўпэўнена. А я даўно цябе прабачыла, Бог усіх прабачае. А хто я такая? Травінка на гэтай зямлі.

Сястра Адама вылечылася, брат ёй аддаў сваю хату, а сабе пабудаваў новую. Жылі непадалёку адзін ад аднаго брат і сястра дружна пад Богам і па-людску – так, як ім наказваў у сваім запавеце іх бацька.

**Яблычны спас усіх «спас»**

*(Апавяданне)*

Вецер шамацеў у прыгожых галінках і лістоце. Дрэвы нібы штось хуценька шапталі нам. Аматарам прыроды не хацелася адсюль ад'язджаць, лес так і вабіў сваёй халаднаватай асалодай. А сонца з-за аблокаў нібы ўсміхалася лесу, а можа, і нам. Мы з маленства любілі лес – так, як яго любіла ўся наша сям'я. Усе назаўсёды запомнілі бабуліны словы, што толькі дзякуючы лесу выжыла наша сям'я ў гады ваеннага ліхалецця. Мая бабуля Зося часта ўзгадвала ваенныя гады, і гэтыя ўспаміны назаўсёды ўрэзаліся ў маю дзіцячую яшчэ памяць...

Пачалі на небе лятаць падазроныя самалёты, і ў вёсцы Цераспаль пачалі людзі гаманіць пра вайну. Многія не верылі, не маглі ўявіць, што гэта страшнае здарэнне можа закрануць іх, мірных жыхароў сваёй Радзімы, якія самі для сябе ўсё дабываюць і нікому ніякага зла не жадаюць. Гэтае страшнае слова не сходзіла з вуснаў дарослых і дзяцей. Людзі хадзілі адзін да другога часцей, чым раней, каб разам супакоіць свае страшныя думкі, якія лезлі ў галовы дзень і ноч, асабліва ноччу нельга было заснуць ад прадчування нейкай надыходзячай бяды.

Выгляд у аднавясконцаў быў стомлены, змораны. Што вайна, гэта дрэнна і страшна, здагадваліся нават дзеці. Спачатку ўсе былі ўпэўнены, што гэтая вайна хутка скончыцца, а потым зразумелі, што гэта надоўга, яшчэ зразумелі, якая яна страшная і жудасная, калі ўбачылі абозы, якія ехалі з фронта. Жанчыны з вёскі пахапалі, хто малако, хто хлеб, хто сала, і пабеглі да дарогі. Яны хацелі пакарміць параненых салдат, але тое, што яны ўбачылі, так іх уразіла, што яны, як статуі, застылі на месцы, забыўшы пра свае пачастункі. На вазах ляжалі акрываўленыя маладыя хлапчукі, жываты ў іх былі перавязаныя чырвонымі бінтамі, але пад імі калыхаліся кішкі. Гэтыя





параненыя, зусім яшчэ дзеці, доўга сніліся бабулі Зосі начамі і стаялі перад вачыма нават днём.

Страшна было слухаць гул нямецкіх самалётаў, у любы момант маглі паляцець з іх снарады, але яшчэ больш страшна было ўбачыць фашыстаў зусім побач з сабою. У той дзень, ці дакладней час, калі фашысты наехалі, як саранча, на вёску, бабуля ішла з крамы, прыціскаючы да грудзей яшчэ цёпленькі хлеб. Хто тады ведаў, што гэта апошні хлеб, які яна набыла у краме, а потым прыйдзецца яго самой пячы. Са страху бабуля аж прыліпла да плоту, проста ўрасла ў яго, ледзь не паваліла чужую агароджу. А карнікі усё ехалі і ехалі на машынах і матацыклах. Іх была ўжо цэлая процьма. Апошнія з гэтага эшалону па чарзе затрымліваліся каля хат і рабавалі збянтэжаных людзей.

Яны адразу напалохалі не толькі дзяцей, але і дарослых сваім жудасным нахабствам. Бегалі па дварах, хапалі кур, гусей, індыкоў, парсюкоў. Збіралі ў свае каскі яйкі. Гаспадары, у якіх было многа дзяцей у сям'і, не маглі спакойна глядзець, як немцы распраўляюцца з іх гаспадаркай, яны спрабавалі ім перашкодзіць і тут жа атрымоўвалі смяротныя раны ў галовы прыкладамі, а тых, хто яшчэ спрабаваў  нешта супраць зрабіць, забівалі чэргамі з аўтаматаў. Паўсюль чуўся енк жанчын, плач жудасна спалоханых дзяцей.

Бабуля Зося кінулася стрымгалоў на свой хутар. Яна бегла з адной думкай: толькі б паспець. Яна была ўпэўнена, што фашысты заехалі і на яе хутар. Баялася за сваіх дзяцей, аддыхалася толькі тады, калі ўбачыла, што на хутары ўсё спакойна, не даехалі ворагі яшчэ сюды. Але адпачываць не было часу: трэба было схаваць ад карнікаў прадукты, каб было чым карміць дзяцей. Зося не магла ў гэты момант думаць, яна толькі магла дзейнічаць. Хавала ў стагі сена ўсё, што пападалася пад рукі: збожжа, бульбу, адзенне. Нават хлеб, які ўсю дарогу прыціскала да сябе, таксама туды засунула, не дала галодным дзецям. У агародзе вырыла вялізныя ямы і нахавала туды сала разам з цэбрам, мяса ў шкляных слоіках, зноў бульбу і зерне, сухія грыбы і садавіну. А потым сядзела на прызбе і маліла Бога, каб не сунуліся да яе на хутар фашысты, але дарэмна: на наступны дзень зранку пачула ўжо знаёмы страшны рокат матацыклаў. Фашысты прыехалі не рабаваць, а жыць, таму што адразу са сваімі клункамі накіраваліся ў хату.

Гэта было яшчэ страшней. Не магла нават уцяміць Зося, што будзе жыць разам з немцамі. Аглядзеўшы пакоі, немцы пачалі крычаць: «Шнэль,» – і штурхаць жанчыну разам з дзецьмі да дзвярэй. Не дазволілі нічога ўзяць з рэчаў апроч адзення, якое ляжала каля ложкаў, на якіх яшчэ спалі дзеці. Выгнаўшы ўсіх на вуліцу, фашыст паказаў пальцам на хлеў. Зося, помнячы пра расправы ў вёсцы, моўчкі пайшла да хлява. Апрануўшы дзяцей, яна іх угаварыла маўчаць, і нічога не распытваць у яе, і яшчэ сонных паклала на салому.

Яна стала «ламаць галаву», што прыдумаць, як можна жыць без хатніх рэчаў, без посуду, без свечак, без нажа. Савацца да немцаў у хату яна баялася: забіць яе і дзяцей ім толькі на руку, ніхто не будзе ім перашкаджаць. Але як можна пакарміць дзяцей? Пачала пад плотам шукаць стары прадзіраўлены чыгунок. Скруціўшы дроцік, знайшла камень і забіла дзірку. Насыпала бульбу і пачала распальваць на агародзе касцёр. Трэба было карміць дзяцей, кур, парсюкоў. Яна моўчкі глытала свае слёзы, але нічога не магла зрабіць, яна не магла рызакаваць сваімі дзецьмі. Ёй было цяжка глядзець на сваю хату і не ступіць нават на яе парог. Праз некалькі дзён фашысты прымусілі малодшую дачку Алесю, якой толькі споўнілася шэсць гадоў, прыбіраць ім пакоі. Гледзячы, што вытвараюць карнікі з яе хутарам, зжымаліся ў Зосі кулакі. Хацелася адкапаць нямецкі аўтамат і папрактыкавацца на гэтых катах.

У вёсцы, недалёка ад хутара, жыў бабулін родны брат. Меў ён дзве дачкі-прыгажуні. Старэйшая Яна, малодшая Веранічка, у якой была цяжкая і прыгожая каса. Яна ўжо цэлы год сустракалася з хлопцам са сваёй вёскі, даўно збіраліся пажаніцца, але ўсё адкладвалі. Не маглі ўсім паказваць сваё шчасце, калі вакол было столькі гора. А тут наранку прыйшоў стараста і прачытаў фашысцкі загад, у якім было напісана, што Яну і яшчэ сем прыгожых дзяўчынак заўтра адпраўляюць на працу ў Германію. Матка Яны адразу загаласіла.

– Божа мой, злітуйся, яна ж у нас такая хворая, паглядзіце на яе бледны твар, некалькі разоў на гэтым тыдні трациіла прытомнасць.

– Нічога не ведаю, – злосна адказаў стараста. – Загад ёсць загад, яго трэба выконваць.

Яна пачырванела, ад страху не ведала, што ёй рабіць, што прыдумаць: ці прызнацца бацькам, ці далей утойваць свой грэх.





– Мама, тата мне трэба вам нешта важнае сказаць, – пачала размову дзяўчына. – Я не з-за хваробы траціла прытомнасць, я цяжарная, ужо на пятым месяцы.

– Божа мой, што ж рабіць, – яшчэ болей загаласіла маці.

Палову ночы гарэла свечка, думалі, раіліся між сабой, нават бабулю з хутара паклікалі, і не дарэмна. Гэта менавіта яна прыдумала падмяніць сясцёр. Вераніка адразу згадзілася выручыць сваю цяжарную сястру, але наадрэз адказвалася адрэзаць сваю прыгожую касу, а ў Яны была стрыжка.

– Ох, якая бяда да нас завітала, у мяне ужо мазгі не варацъ, як мы іх падменім, не вельмі яны і падобныя, пазнаюць усе ў вёсцы, – не ўнімалася маці Яны.

– Я буду ісці да цягніка, апусціўшы галаву, закручу каля шыі хусцінку, а касу схаваю пад ватоўкай, – угаворвала ўсіх Вераніка.

Бацька маўчаў, а потым пагнаў усіх спаць, трэба было рана ўставаць. Раніцай Вераніка, расплюшчыўшы вочы, убачыла сваю касу, якая ляжала каля яе на падушцы. Бацька ноччу адрэзаў дачцы касу, баяўся рызыкаваць. Доўга крыўдзіцца на бацьку Веранiцы не давялося, не даехала яна да Германіі, у цягнік патрапіла бомба, і некалькі вагонаў былі раздробленыя ўшчэнт. У адным з іх ехала Вераніка. Рана была смяротнай: ад левай рукі да самага бядра. Праз некалькі хвілін яна сцякла крывёй. Не паспелі санітары пакласці яе на насілкі, як яна заплюшчыла свае прыгожыя карыя вочы.

Сярод ночы ў хаты сонных людзей прыходзілі карнікі, паднімалі ўсіх, а дзяцей ставілі да сцяны тварамі, і настаўлялі на іх аўтаматы. Пасля гэтага гаспадары аддавалі апошняе дабро і харчовыя прыпасы, якія былі схаваныя на апошні дзень. Самі ўсоўвалі немцам гарэлку, каб толькі ратаваць сваіх дзяцей ад смерці. Горай было тым, у каго ўжо нічога не засталося, усё панеслі немцы. Ім нічога не заставалася, як даносіць на сваіх суседзяў ці аднавяскоўцаў. Яны даносілі, у каго засталіся яшчэ прыпасы ежы, у каго схаваныя дабротны кажух ці воўна, у каго жыта, і гэтак далей.

Сем'і, у якіх было многа дзяцей і якіх не да канца абрабавалі фашысты, ноччу ўцяклі ў лес. Хутка, на скорую руку рылі зямлянкі. Спалі на зямлі, засланай яловымі лапкамі, па шасцёра чалавек у маленькіх зямлянках. І вось жа цуд: не было ім цесна і душна, хапала

ўсім паветра. Калі ў іх скончыліся прыпасы, Зося бегала да іх кожную ноч, насіла ім харчы, якія прыхавала ў стагах і ў агародзе. Людзі ў вёсцы спалі апранутыя, абутыя, яны адчувалі сябе, нібы на вайне. У любы момант, нават сярод ночы, прыходзілі каты і загадвалі адкрыць куфар, затым, вывернуўшы ўсё на зямлю, выбіралі тое, што ім спадабалася, астатняе таптаді сваімі бруднымі ботамі.

Зося была, як сувязная паміж бежанцамі і партызанамі. Дзе знаходзіліся партызаны, яна ведала, раней да іх часта хадзіла, але цяпер, калі побач былі фашысты, баялася надоўга адлучацца з хутара, таму што трэба было партызанам – перадавала ім цераз бежанцаў (так яна называла людзей, якія жылі ў зямлянках). Гэты год выдаўся ўраджайным, нібы прырода і зямля адчувалі ўсенародную бяду – голад. Нараслі не бачаныя ніколі ў агародзе: бульба, бурачкі, морква, цыбуля. А ў садзе аж галіны гнуліся ад яблыкаў, сліў, грушаў. Каб Зося толькі магла, яна б многа садавіны аднесла бежанцам – там жа дзеткі. Зося з вечара насыпала мяшок гародніны і садавіны, хавала яго, а ноччу, як толькі немцы заснуць, яна адносіла ўсё галодным людзям. Праз лес было цяжка валачы такі груз, яна чаплялася за кусты і расліны. А калі зачапілася за камень і рассыпала свой «скарб», не вытрымала і расплакалася. Прыйшлося Зосі перасіліць сваю слабасць, яна сціснула сваю сілу ў кулакі, прысела на кукішкі і, пазбіраўшы рассыпаныя па траве бульбу і яблыкі, панесла далей.

Калі пачало халадаць, жанчыны хадзілі па лесе, збіралі шышкі і галінкі, бо дровы закончыліся і не было чым паліць печы. Дзве жанчыны адышлі далёка ад вёскі і натыкнуліся на бункер, адтуль выйшаў палонны, ён збег ад немцаў. Папрасіў у жанчын хлеба. Жанчыны пашкадавалі галоднага чалавека, пабеглі ў вёску, прынеслі харчы, накармілі, пераапранулі ў цёплае адзенне. Даглядалі яны яго некалькі месяцаў, а потым гэтага палоннага схапілі немцы, і ён выдаў даверлівых жанчын, назваў іх імёны і вёску, дзе яны жылі. Жанчын схапілі фашысты, без допытаў вывелі за вёску і расстралялі, і так і пакінулі ляжаць каля грушы, пахаваць іх не дазволілі. У іх засталіся сіротамі маленькія дзеці. У Марыі-нябожчыцы іх было чацвёра, а муж загінуў на фронце. Суседка Марыі і яе сяброўка, якая ўцякла з Ленінграда са сваімі двума малымі дзецьмі, не магла гэтых чатырох сірот пакінуць паміраць ад голаду, яна іх забрала да сябе і





даглядала, як сваіх дзяцей. Але самы маленькі Васілёк быў такі галодны, што неяк наеўся сырога цеста, і ў яго адбыўся заварат кішак, а фельчар, які служыў немцам, быў у той дзень п'яны, і не дапамог беднаму малечы, і хлопчык памёр. Дзяцей другой жанчыны карміла ўся вёска. Вайна рабіла людзей мужнымі, яны маглі справіцца з невыноснымі цяжкасцямі. З голаду не паміралі, толькі дзякуючы лесу, ён падтрымліваў аслабеўшых людзей. Лавілі зайцоў і іншых лясных жыхароў. Грыбы, ягады, лекавыя травы збіралі ўсе – гэтым і ратаваліся.

Каля самага хутара былі зараснікі ягадніку чарніц, таму кожны год дзеці Зосі елі смачнае варэнне. Хаваючыся ад немцаў, Зося пастаралася хутчэй назбіраць чарніц для дзяцей, у катле зварыла смачнае варэнне, але фашысты знюхалі і, калі Зося раскладвала з катла варэнне па слоіках, немцы забралі ўсё сабе. Перад тым, як забраць, яны загадалі Зосі самой перанесці сваё варэнне ў хату ў кладоўку. Нічога не засталося дзецям, нават лыжачкі чарнічнага варэння.

Фашыстам падабаліся беларускія баравічкі, яны іх смажылі з бульбай і салам, і толькі пагэтаму адпускалі Зосю з дзецьмі ў лес. Гатавалі ежу самі – ідаць, баяліся, каб іх не атруцілі. А Зося і збіралася нават іх атруціць, яна ж ведала ўсе ядавітыя грыбы. Над гэтым думала Зося, калі збірала з дзецьмі грыбы, і тут нечакана пачула сваё імя. Зося прыслухалася, але ўсё было спакойна, яна нават падумала, што гэта ёй здалося, але пачутае раней паўтарылася зноў. Яна загадала дзецям адпачыць і стаяць на месцы, а сама пайшла туды, з якога боку пачуўся ёй шэпт, і ледзь не наступіла на гэтае «штосьці».

Зося прысела на кукішкі і стала адграбаць лістоту, і пад ёй стаў відны твар страшнага, стомленага, зарослага, схуднелага чалавека. Ён ляжаў і не варушыўся, як мёртвы, напэўна, страціў прытомнасць, аддаўшы ўсе свае сілы, калі клікаў сваячку. Зося апусціла галаву да яго грудзей, ён нават не дыхаў. Зося стала яго трэсці і лупіць па шчаках. Праз некалькі хвілін пачуўся яго стогн, і ён расплюшчыў вочы. Гэтыя вочы ёй былі знаёмыя: такія самыя, карыя і вялікія, былі ў яе гаспадара, які быў на фронце. Прыглядзеўшыся, Зося ў гэтым страшным чалавеку стала распазнаваць мужнінага брата Алеся. Вусны яго былі патрэсканыя, жанчына здагадалася, што ён не еў і не піў вады многа дзён. Зося пачала шукаць у кішэні, каб знайсці хоць што-

небудзь ядомае. Знайшоўшы сухар, яна адламала кавалачак і засунула яго ў рот мужчыне, але, відаць, у яго не было сілы яго жаваць, а можа, без вады перасохла ў яго ў роце. Трэба ж было нешта рабіць, а як яго ратаваць Зося не магла прыдумаць. Яна, «ламаючы галаву» над гэтым, сама пачала жаваць гэты сухі хлеб, а потым, каб яго спакусіць, яна спачатку дала яму яго панюхаць, а затым стала запіхваць сілай яму ў рот. Пачуўшы хлебны пах і смак, Алесь пачаў глытаць хлеб.

«Дацягнуць да бежанцаў у зямлянку, я не змагу нават з дапамогай дзяцей. Дахаты нельга, немцы знойдуць,» – думала Зося. І тут яна ўспомніла пра мядзведзя, якога бачыла ў бярлозе, якая чамусь правалілася. Гэта было якраз на гэтым месцы. Зося, як чумная, стала бегаць па лесе, у пошуках бярлогі, але дарэмна, яна як знікла. Расчараваная жанчына не ведала, што ёй рабіць, але Бог паслаў выратаванне, яна наткнулася на варонку ад снарада. Яма была вялізарнай, залазіць у яе было стромна, значыць, гэтая немчура сюды не палезе. Зося вырашыла збоку зрабіць паглыбленне, зямля была свежай і лёгка было рыць нават рукамі. Наламала яловых галінак, пасцяліла на зямлю. Потым пабегла за Алесем. Вельмі цяжка было яго валачы па траве, але яна спецыяльна адмовілася ад дапамогі дзяцей, няхай лепей яны пра яго не ведаюць, малыя яшчэ могуць прагаварыцца. Засадзіўшы яго ў пячору, яна завалiла ўваход сухімі галінамі, каб не было прыкметна.

Загаварыў Алесь толькі праз нядзелю, калі яна палячыла яго травянымі адварамі, лекавымі ягадамі. У тое, што пачула ад Алеся, немагчыма было паверыць, але яна ведала, што гэта чыстая праўда. Гісторыю свайго выжывання ён пачаў з таго часу, як патрапіў у нямецкі канцлагер. Людзі там мерлі як мухі, сотнямі. Кармілі дрэнна, можна сказаць, што зусім не кармілі. Раз у тыдзень іх зганялі на забор крыві, кроў патрэбна была раненым фашыстам. Працавалі ад цямна да цямна, назіраў за ўсімі канвой з сабакамі, і калі хто падаў ад стомы ці хвілінку адпачываў, атрымліваў па галаве пугай, на канцы якой было прымацавана жалеза, якое рассякала галаву чалавека. А калі чалавек падаў і не мог хутка падняцца, яго дабівалі чаргой з аўтамата. Фашыстам трэба было выкачаць з палонных кроў, і, спаліўшы іх целы, пусціць попел на ўдабрэнне нямецкіх зямляў.





Баланду ванючую не елі нават сабакі, але яны елі. Праз тры месяцы Алесь так аслабеў, што зразумеў, што гэта прыйшла яго смерць. Але тут з’явіўся шанц на выжыванне. Прыехаў з падводай тоўсты немец, апрануты ў рабочую вопратку. Ён, пагаварыўшы з канвоем, звярнуўся да палонных на ломанай рускай мове: «Кто ест быстро дойти до воза, поедет мне». Алесь зразумеў, што калі ён не зможа выкарастаць гэты шанец, ён прападзе. Ён сабраў, нібы ў кулак, усю сваю сілу, заскрыгатаўшы зубамі так, што яны ажно затрашчалі, і пабег, сілаю прымушаючы пераступаць непакорныя свае аслабеўшыя ногі.

Той таўсцяк аказаўся добрым чалавекам, ён не проста так забіраў людзей да працы, ён іх выратоўваў. Падкармліваў, а потым адпускаў на волю, а немцаў з лагера падманваў, што палонныя памерлі ад хваробаў. Нармальныя людзі былі нават у краіне ворагаў. Сабраўшы ўраджай, яны патрэбныя былі толькі пад час уборкі, яны сабраліся дадому, ведалі, што гэта небяспечна. Герман, так было імя гэтага добрага чалавека, дапамог з вопраткай, даў хлеба і сала на дарогу. Алесь дазнаўся яшчэ па дарозе дадому, што ў вёсцы фашысты, і накіраваўся на хутар да брата, і выходзіць, што тая акалічнасць, што ён страціў прытомнасць і не дайшоў да хутара, выратавала яму жыццё.

Зося вельмі перажывала, каб фашысты не знайшлі хованку, але бяда прыйшла з другога боку. На дарозе паміж вёскай і хутарам знайшлі двух забітых немцаў. Паўсюль былі аблавы, а калі фашысты не знайшлі партызанаў, яны пачалі расправу над мірнымі жыхарамі. Зосю з яе дзецьмі, штурхаючы ў плечы, пагналі ў вёску. Спачатку Зося думала, што яе з дзецьмі немцы гоняць расстраляць, і пачала ўяўляць сабе страшную карціну, як ляжыць яна акрываўленая, раскінуўшы рукі, а вакол яе ляжаць забітыя яе дзеці. Але калі прайшлі лес, яна ўздыхнула з палёгкай: каб карнікі хацелі яе забіць, навошта ім было так далёка цягнуць, у лесе ім было б зручней з ёю расправіцца. Тут раптам яна ўбачыла натоўп людзей за вёскай, сэрца адразу з болем закалацілася. «Значыць, будуць усіх паліць,» – такая думка адразу прыйшла ад Зосі. Падыйшоўшы бліжэй, яна ўбачыла, што мужчыны рылі вялізарны роў, іх і астатніх пільнавалі немцы. «Значыць, будуць расстрэльваць, а потым яшчэ жывых закопваць,» – здагадалася Зося.

Жанчыны стаялі, прыцiскаючы да сябе сваіх дзяцей, яны былі апранутыя ў прыгожыя сукенкі, таму што ў гэты дзень было царкоўнае свята – «яблычны Спас». Яны ўсе шлі ў царкву, але прыехалі карнікі і пагналі ўсіх натоўпам за вёску. Акружылі немцы з сабакамі, і білі прыкладамі аўтаматаў тых, хто да іх падыходзіў з пытаннямі. Дзецi плакалі, жанчыны галасілі, а гаспадары моўчкі глыталі свае слёзы. Фашысты прайшлі па ўсёй вёсцы і сабралі астатніх жыхароў, а старых і нямоглых гэтыя варвары расстралялі нават на іх ложках. Роў быў яшчэ не глыбокі, але чамусьці немцы загадалі вылезці з яго мужчынам і пакідаць рыдлёўкі – нешта змянілася. Пад'ехала бліскучая чорная машына, з яе вылезлі фашысты, злыя як сабакі, размахвалі рукамі і нешта даказвалі. Усе яны былі злосныя, нярвовыя, акрамя аднаго, які гаварыў то на польскай мове, то на нямецкай. Гэты афіцэр быў спакойны і аб нечым думаў. Былі ў яго добрыя вочы, якімі ён аглядаў спалоханых людзей, было бачна, што ён іх шкадуе. Потым ён нешта доўга даказваў фашыстам, і нават прасіў іх аб нечым. Тыя ўжо перасталі размахваць рукамі.

– Я – естэм поляк, я – чловек вэнжонцы. Джішь свято «яблычны Спас», пагэтаму я вас фшысткіх выратаваў, – гаварыў афіцэр на польскай і беларускай мовах. Потым ён яшчэ нешта гаварыў, але Зося толькі запомніла яго прозвішча, і доўга за яго малілася, і вырашыла за яго маліцца да самай смерці.

Выратаваныя людзі сталі верыць у перамогу, да іх прыйшло празрэнне: калі з імі здарыўся такі цуд, то Бог дапаможа перамагчы фашыстаў.





***ВЯЧАСЛАЎ КОРБУТ***

*Нарадзіўся 2 ліпеня 1972 года ў Слуцку. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1994 годзе, юрыдычны факультэт Белдзяржуніверсітэта – у 2000 годзе. Паэт, празаік, публіцыст. Піша па-беларуску. Вершы друкаваліся ў газетах «Чырвоная змена», «Наша Ніва», «Літаратура і мастацтва», «Сям'я», «Беларуская ніва», у часопісах «Маладосць», «Вожык», «Першацвет» і інш. Аўтар чатырох мастацкіх кніг: «Цар-алень» (1997 год: вершы), «Начны мастак» (2000 год: вершы і апавяданні), «Чаму ўсміхаецца сонца?» (2005 год: вершы і паэмы), «Байкі дзядзькі Лапатуна» (2010 год: сатырычная паэма, байкі, гумарыстычныя апавяданні). Друкаваў свае творы ў некалькіх калектыўных зборніках. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2000 года. Аўтар серыі кніг, прысвечаных прадпрыемствам Беларусі. У цяперашні час працуе на літаратурна-выдавецкай ніве. Кіраўнік літаратурнага клуба «Экватар». Жыве ў Мінску.*

**Любіце Радзіму**

Любіце Радзіму, як поле жытнёвае,
Як сціплай хваінкі сто першы расток,
Любіце Радзіму за сэрца сталёвае,
Што столькі стрымала пакут незрарок.

Любіце за верас на хлебным суквецці,
Дзе столькі пралілі народнай крыві,
Любіце Радзіму, мы ж родныя дзеці
Яе небакраю, што нас апавіў!

Пракосы палёў, мураваныя храмы,
І рэкі, як сціплыя межы быцця,
Мы цэгла той светлай ваколічнай брамы,
Дзе роднае слова, як светач жыцця!

Любіце Радзіму, яна нас атульвае,
Як маці малое сваё немаўля,
Яна берагіня, як шчасце агульнае,
Святая, як хлеб, Беларусі зямля!

**Востраў**

Набудзь палетак, знайдзі той востраў,
Глыні глінтвейна, знімай кашулю,
Бо гэтак трэба знайсці наш востраў,
Які не знікне, як лісце з ліпы,
Наступіць люты, я мы, як птахі,
Што спяць на скалах крылом да неба,
І, як касаткі, нырнем у мора,
Што дна не мае, ды ёсць праменні
Тваіх сігналаў, маіх здагадак,
Што захаваюць наш дзіўны востраў,
Дзе б’юць крыніцы, цяпло і песня,
І ліры творцаў былых эпохаў.
Жыве той востраў у вадаспадах,
Каралях пляжаў, зяленых мілях,
Там неба спіць, памяняўшы зоры
На стужкі з мройнага перламутра,
І ты знайшла, ты ідзеш з лагуны,
Павольна, томна, бы тая зорка,
Святло імчыць на наш вольны востраў.

***

Ты ведаеш мяне, я ведаю прастору,
Якая глушыць сем гукаў,
Што вальготна знікаюць ў цені
Здані, што накрыла  чвэрць галактыкі,
У якой усе зоры сінія, а камет няма,





Бо ў студзені тройчы гучала гітара
На тыя басы,  якіх не пачуць дужым.
Мы ж драўляныя фрэскі багемнага замку,
Што першы пабудавалі птушкі,
Што вярнуліся  з той галактыкі,
Дзе зоры сінія, а камет няма.
Ты ж ведаеш мяне…

***

Ты Элада мая, ты мая Афіна,
Ды як пушчанскі воўк завые,
Як скіне скуру лайдак-трус,
То і бераг сіняга возера знікне,
Змоўкне ў тумане з Папараць-кветкай,
Якую ахоўваў воўк.
Ты мая пушча і вяргіня мая,
На поўначы зоры змяшаліся, і сэрца,
Што раскалілася ад пакутаў, лёгка,
Без бляску нашпігаваных манет,
Звініць, кідаючы талеры сваёй пяшчоты,
На той бераг, дзе ты мая Афіна, мая Элада,
Пераўтварылася ў пушчанскую каралеўну.
І таньчаць побач з намі купалькія языкі агню!

***

Радзіма, прачынайся. Боль і гнеў –
За волю сваю крэўную ганебна.
Даносіцца дзесь песень родных спеў,
І толькі вецер чэша нашы рэбры,

Навокал безліч птушак, як прыліў
Таго вялікага, чаго мы супраціў,

Імкнемся перасіліць нашу стому,
Каб песні сонца несліся дадому.

Мы там, дзе крыгі рваных гарадоў,
Багамі перакрытыя праспекты,
І ты спытаеш, ці я быў гатоў,
Каб веліч праўды вырвалася в пекла.

І хто такі сягоння гэты свет,
Што прагне вабна золатам іскрыцца,
Дзе эмігрант, смяльчак, адно ж плывец,
Адзін з паўсотні выжыў. Маладзіца

Ягоная з дзіцём на мора дне,
Ужо не даплыве да той Яўропы,
Кацёл сірыйскі варыцца ў вайне,
За ўладу распалёным стаў па кроплі.

І гіне свет, дзе заўтра цемры быць,
Якому ліху верыць сарамліва,
Мы маем голас, покуль не рабы,
І за свабоду б’емся мы цярпліва.

***

Напярэдадні халоднай зімы,
Човен, поўны раслін і хмызняку,
Поўны старых каранёў і кветак,
Пераплыў сем акіянаў і застаўся там,
Дзе скіфы ачышчалі золата. Там чары,
З якіх першы з людзей стане апошнім,
І вернецца раптам пунсовы захад
Над возерам Белага лебедзя…





**На Вадохрышча**

Срэбнае паветра,
Снег паўсюль блішчыць,
А з нябёс у гетрах
Месяц зіхаціць,
Ярка, смела, чыста
Неба ўсё мігціць
Мірыядам зорак,
А народ – бы золак.
Свята замаўляе
Свет вялікі ласкай,
Бог нас бласлаўляе
Вадзяною казкай.
Будзем чыста мыцца,
Чысціць дух і цела,
Кроплі той вадзіцы
Наталяйце смела.
Мыйцеся і свечкі
Гожа запаляйце,
Жыць усім вам вечна,
Бога бласлаўляйце!

***

Цяжкі ён, шлях твой, Радзіма –
Колькі ты бітай была?
Колькі сыноў нарадзіла?
Шмат і згубіць іх змагла.

Дзе за шыпы ці за ружы,
За векапомны той кліч,
Страчвала хлопцаў ты дужых –
Колькі ляжыць у зямлі?

Горкі ён, шлях твой, Радзіма...
Дзе палыном зараслі
Сцежкі ўжо, дзе ты хадзіла
Хворай па кволай раллі.

Хлебам дачок ты карміла
І сырадоем – усіх,
Меў каб народ тую сілу,
Меў на сваіх і чужых.

Ведаеш, маці-Радзіма,
Дзе твой няскошаны луг?
Там, сярод траваў надзіва,
Дзе ажывеш ты ад мук,

Што так звадзілі зласліва,
Ды той ўжо скончаны баль.
Славім тваю мы шчасліва
Непрадказальную даль!

**Змены**

Я мяняюся, як цені лістапада,
Як стамлёны прывід на скале,
Адраджаюся – у кроплях вадаспада,
І знікаю, і ўзнікаю, як на шкле.

Я такі, як тысячы папрокаў,
Як сусветны кінапрымітыў,
Не бестселер дзе, бутэльку грога
Стомлены ваяр не дацадзіў.

Я не веру, веручы ў сцены,
За якімі столькі глухаты,





Я не веру ў прывід пераменаў,
Што зманіў мільёны беднаты.

Я не мару марыць быць паперай,
На стале прафесара быцця,
Дзе са слоў – ужо адно хімера,
І да літар цягнецца дзіця.

Не аднекуль смелая дарога,
Напрасткі праз кроны і асфальт,
Так імчыць праз церніі да Бога,
І на ёй ніхто не крыкне: «Хальт».

Зноў мяняюся, як цені лістапада,
Праз дажджы хінаюся я ўбок:
Ад людзей з эмблемай «казнакрады» –
Да людзей з мянушкаю «прарок».

**Не пра надзённае**

Не гадуй мяне, колішні вецер,
Не гадуй, заняволены кут,
Моліць сонца халоднае вецце,
Дзе вавёрка вячэрала тут.

Так нясцерпна шукаў адзіноты,
Каб сябе і пачуць, і адчуць,
І хвалёныя радасці ноты
Праз балючы спакой праглынуць.

Спіць вялікае мора народу,
Спіць і самы чужы далягляд,
Дзе не будзе той колішняй моды
На без мэты прайшоўшы парад.

Сакавітага смешнага заўтра,
Дзе не будзе чырвонай ікры,
Дзе былога не знікнуць Манмартры,
Забудуюць Нямігу бабры.

А навокал – чарговыя цені,
Лёсаў нечых то гаспадары,
Зарываюць банкноты, ды ў цемры, –
З іх будуюць Нямігу бабры.

І табе, чалавек-валацуга,
Я вярну твой патрыманы плед,
Хай блукае жыццё зноў па кругу,
Да вавёркі ідзе на абед.

***

Скажыце, хто мы і з якой мы планеты,
Сюды завіталі на цуда-Зямлю,
Як промнямі сонца штодня тут сагрэты,
І верым у праўду ці сілу сваю.

Каб годна ісці па прасторах і стэпах,
Як тысячы тых, хто ў той вечнасці знік,
Хто штосьці шукаў і знаходзіў з імпэтам,
То – сэнс існавання, свае карані.

Так лёгка сказаць: я шчаслівы бязмерна,
Бо здолеў змяніцца насустрач святлу,
Адкрыцца і стаць чалавекам шматмерным,
З энергіяй шчасця, падобным цяплу.

Ды не, з нас не кожны жыве спагадліва,
З сям'ёю, прыродай, з сабою на здзек





Вялікай надзеі касмічнага дзіва, –
Для мэты якой ты жывеш, чалавек?

Для войнаў, нажывы, махлярства ліхога,
Каб існасць сусвету сабе прыгарнуць,
Стаць суперасобай. Што супердурнога,
Яшчэ не зрабіў, каб усіх падмануць?

Не трэба глуміцца над кожнай асобай,
Не трэба сябе, ды ў цямніцы, трымаць,
Наперад з паветрам, са свежаю здобай,
І кубкам гарбаты жыццё адчуваць!

**Птушка**

Птушка, о птушка з высокім крылом –
Птушка палёту бязмежнага, –
Мара паэта, схаваны твой дом
Недзе ля горада снежнага.

Неверагодна, ты пільна глядзіш
У свет, заклапочаны тэгамі,
Нам не па шляху, твой шэпт: што маўчыш,
Станем наўрад ці калегамі?

Болем аддасца апошні ківок,
Крылы вапруцца, ды ў сцены,
Ты не волі, Зямля – твой рывок
Да залатых пераменаў.

Колькі чакання і колькі дарог,
Звыкліся крылы бадзяцца,
Стогны іудаў, і крэўны Сварог
Прагне з табою спаткацца.

Дробныя рысы сучасных людзей,
Дробныя мары паэтаў,
Свечкі ля студняў, капканы ідэй,
Птушка, ратуйма планету!

Хлеба ім мала і мала цяпла,
Крохкія дозы свабоды…
Птушка параненай воддаль плыла,
Бойку спыніўшы народаў.

**Быць чалавекам**

Сягоння важна, як ніколі
Быць чалавекам на зямлі,
Магутны стаў ты сваёй воляй,
Багоў нашчадак. Караблі,

Ракеты, пад зямлёй калайдры,
Выпрабаванні з ДНК,
Смартфоны і 3D. Не Клайды
Нас атакуюць – са штыка.

Вакол пажары на планеце,
Спустошаных лясоў зашмат,
І сярод бежанцаў ёсць дзеці,
Стаў больш крывавым цыферблат.

Что час наш гэткі адбівае,
Наш планетарны метраном,
То ж чалавек Зямлю знішчае –
Цудоўны свой, багаты дом.

Рай электронны, свет касмічны,
Усё працуе на мяжы.





Калі заглохне звон крынічны,
Тады, відаць, і нам не жыць.

Сягоння важна, як ніколі,
Не існаваць, не выжываць,
А з розумам быць творцам долі,
Сваёй і тых, што змог спаткаць.

***

Прачынайся, грамада,
Хутка ўсё праспім,
Кульба часу па ладах
Прэ, як Аладзін.

Дзе ні востраў, там – свабода,
Поле – там курган,
Мы ж народ – раб агарода,
Лёс наш – барабан.

Не пусты і не вальготны,
Так, нібыта крэм,
Што намажаш ты на боты,
З часам перамен.

Ды яны ж у наш падворак
Аніяк не пруць,
О жыццё, на твой пагорак
Вельмі цяжкі пуць.

Дзе ж яны, вятрыскі зменаў?
Дзе, на самым дне!
Пад ільдом сучасных генаў,
Стаюць па вясне.

І тады на ўсіх прасторах,
Сёлах, гарадах,
Наш народ хай зрыне гора,
З думак сваіх страх.

Мы сваё з даўнінаў маем,
Ад дзядоў не здзек,
Будзь смялей, і свет спазнаеш
Вольны чалавек!

**Сусед-афганец**

Халодным пленам авалодае туман,
Туга і вільгаць восеньскага ранку,
Наперадзе жыцце, а там – Афган,
І дзе тваё жыццё, да шчасця планка?

Салдат былы, ён сёння – ветэран,
Ужо гады пажалі шавялюру,
Часцей баліць рука – парэшткі ран,
Далонь не тая і мускулатура.

Былы дэсантнік, горы і баі,
Іх пад Кабулам полк заўжды гатовы,
Даць бой, сваіх прыкрыць, свінцом паліць
Душманаў, іх бандыцкія высновы.

Салдат, табе радзей той сніцца пыл
Ад бэтээраў, пыхі куляметаў.
Сябры – часцей. Няма каго, скажы, –
Жыццё за іх прасіла так істотна.

А колькі на душы спяклося ран...
Ніводную не хочаш расцярушыць.





Цябе ў шыхты свае схапіў Афган,
Загад – і ты ў паход гатовы рушыць...

***

А недзе там, дзе стужыць мора,
Дзе чалавек губляе рай,
Дзе з вокнаў хат не бачна змораў,
Там ёсць адзіны дзікі край.

Там хтось шукае след надзеі,
Пасля імкне здзівіць наш свет,
І толькі песні чарадзееў
Да зор таемных ладзяць след.

І вось яна, зара настрою,
У гэтых мроях свет расцвёў.
І ты, і я, і нас не двое,
А міліёны – хто дайшоў.

Хто дацягнуўся да прасторы,
Усіх здзіўляючых вышынь,
Мы ж толькі людзі, а не зоры,
Нам не патрэбны лёс машын.

На ўскрайку свету ціш навокал,
Хрыпіць вулкан з глыбінь зямных,
І сярод нас няма прарокаў,
І сярод цемры мы адны.

Згубіўся след да светлай мары,
А мо яго звяргае быль,
І зніклі сярод нас пачвары
І маладушныя рабы.

Свабоду дзён хвалюе песня,
Для нас, хто зведаў боль нягод,
Святло магічнае ўваскрэсне,
Сагрэе сонца й наш народ.

І мы, стамлёныя ад жалю,
Ад барацьбы і халадоў,
Масты ў мінулае падпалім,
Каб шлях далей гукаў наноў.

**Восені букет**

*І.В.*

А восені букет, ён зараз твой,
Пранізліва ажыў наш лістапад.
Жар-птушка нам каронай залатой
Асвеціць шлях у восенькі той сад.

І восенькі букет, як быццам зніч,
Ён запалае – у тваіх руках.
Усмешкаю сваёй мяне пакліч,
Не, не забыты наш да шчасця шлях.

Магічны, непадкупны той букет
Багацці апавіў усе быцця.
Стаяла з ім, а восенькі ўвесь свет
Нам адбіваўся подыхам жыцця.

**Мосцік**

Мосцік вузенькі праз рэчку –
Усяго дзве кладкі.





Рэчка – так, як саматэчка,
Хоць пячы аладкі.
Дзе па пояс, дзе па ныркі,
Дзе глыбей – па грудзі,
У рачулкі выгляд зыркі,
Любяць яе людзі.
То сябрыну тут наладзяць,
То казу напояць,
Нехта пяткі вадой гладзіць,
Шчупачыху зловіць.
Цеплым летам пры народзе
Моладзь каля рэчкі
Карагоды спраўна водзіць,
Песні льюцца, спрэчкі.
Вось аднойчы каля кладкі
Недзе ранкам – летам,
Два дзяды сышліся гладка
Кожны быў з імпэтам.
З розных вёсак, апантана,
Па сваіх йшлі справах,
Кладка-та шырэй не стане:
Крок улева-права –
І ты ўжо вады па бруха
Легка паспытаеш.
Чэша дзед адзін за вухам,
А другі пытае:
– Мне хутчэй, ты пачакаеш,
Трэба за бавоўнай.
А другі яго пытае:
– Ведаеш Пятроўну?
Валянціну, з маладосці
Яе паннай звалі?
– Жонка то мая, – без злосці
Дзеду адказалі.
Тут, хіба што солі з’елі, –
Вось табе і цуда,

Дзед на дзеда паглядзелі
Рысакі-няўклюды.
Панны муж пайшоў на кладку
Каб пратэпаць першым,
А другі – о, непарадкі,
Стаў шчэ болей грэшным.
Яго кульбаю ды ў рэчку
Папіхнуў рачуча,
Не стрываў і сам з той спрэчкі
І зляцеў, бы з кручы.
У вадзе стаяць дзядулі,
Лыпаюць вачыма,
Ім – бы маладосць вярнулі,
Бо адну дзяўчыну
Яны некалі кахалі –
Там, у маладосці.
Быў адзін мілей для Валі –
Просты сам, без злосці.
Дабрыню яна цаніла
У сваім абраным,
Добрае жыццё пражыла –
Так наканавана.
І пайшлі дзяды на бераг,
Кожны бок свой ведаў,
Хто без злосці, хто без веры –
З перчыкам паснедаў.
Рэчка льецца перакатам,
Беражкі крутыя,
А жыццё, яно страката
Ладзіць байкі тыя.
Не адну наш мосцік шчыра
Можа распавесці.
Трэба, людзі, жыць у міры,
А не кульбай трэсці!





***ЛЮДМІЛА ЛАЗУТА***

*Лазута Людміла Паўлаўна нарадзілася 27 чэрвеня 1954 года ў вёсцы Едначы Гродзенскай вобласці. Сярэднюю школу скончыла ў Слоніме. Пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута працавала ўрачом-педыятрам у Воранаве, Слоніме, Гродне. На працягу дваццаці гадоў працавала галоўным урачом дзіцячай паліклінікі ў Мінску. Перыядычна размяшчала апавяданні ў часопісах «Здоровье и успех», «Домашний очаг», у газетах «Воскресение», «Веснік БДМУ». Прыхільніца ідэі «адказнага бацькоўства»: у дзецях – наша будучыня, таму не можа быць чужых ці нічыіх дзяцей. У цяперашні час займаецца педагагічнай дзейнасцю: працуе ў Мінскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. У 2014 годзе выдала кнігу малой прозы «Імгненні».*

**Непагаснае святло надзеі**
*(Апавяданне)*

Калі восень пачне зноўку клікаць зіму,
Чутны крык жураўлінае зграі.
Адганю я свой сум, вочы ў неба ўзніму –
Вы скажыце яму, што чакаю…

Добры дзень, мой каханы, мой непараўнальны, адзіны і незабыўны! Прайшло ўжо тры гады, як я вырашыла болей не пісаць мае безадказныя пісьмы табе, ды зноў не стрымалася. Цяжка маўчаць, калі сэрца хоча размовы. Ведаеш, у нас добрыя навіны: нарадзіўся яшчэ адзін працягвальнік роду, хлопчык у ўнучкі маёй сястры. Іванам назвалі. А яшчэ твой малодшы пляменнік купіў сабе новую прыгожую машыну, будзе яму ямчэй зараз ездзіць без усялякіх дарожных неспадзянак, ужо ж таксама не малады. Але што ж гэта я? Узялася за ручку не дзеля навінаў, хоць яны і вельмі радасныя. Прызнаюся – спалохалася, што можа ў наступныя дні цяжэй будзе пісаць, рукі слабеюць…

Вырашыла распавесці аб маім бясконцым каханні, пара прыйшла, каб ты ведаў. Старая ўжо, мо і не давядзецца пабачыцца, калі

з Божай дапамогай ты ўсё ж знойдзешся. Раней была ўпэўнена, што будзе магчымасць расказаць аб усім пры сустрэчы. Не здарылася. Вось і застанецца маё пісьмо, мо хоць яно свайго часу дачакаецца…

Памятаю, як суседка, што працавала ў сельсавеце, прывезла звестку, што скончылася вайна. Паветра ў вёсцы раптам ажыло, напоўнілася нязвыклымі гукамі: адны жанчыны галасілі ад роспачы і жалю да загінуўшых у вайну, другія абдымалі адна адну і радаваліся, што ёсць каго чакаць з фронту, дзеці бегалі кругамі і хваліліся адзін перад другім яшчэ не бачанымі ўзнагародамі сваіх бацькоў, якія ўжо, мабыць, едуць дамоў. Да гэтага часу перад вачыма, як жывыя, постаці дзеда Антося і кульгавага дзядзькі Сямёна, моўчкі ўкленчыўшых перад крыжам ля завулка. Яны, не саромечыся, плакалі, расціраючы далонямі слёзы па змучаных худых тварах, дзякуючы Богу за збавенне ад агіднай фашысцкай пачвары. Потым да іх далучыліся і жанчыны: кожная шаптала сваю малітву, сваю падзяку. А потым паціху ўсе разышліся па дварах, разам з вечарам на вёску насунулася доўгая цяжкая цішыня, бо ў кожнай хаце былі свае сямейныя асаблівыя ўспаміны аб загінуўшых.

Павячэраўшы, мы таксама доўга яшчэ сядзелі ля стала. Вырашылі, што сёння ўжо не абавязкова спаць апранутымі. А я падумала, што раніцай не трэба будзе нацягваць хусткі на самыя вочы, хаваць маладыя твары ад немцаў, абвязваць галовы мокрымі ручнікамі і залазіць на печ, каб салдаты думалі, што мы хворыя, у гарачцы. Немцы вельмі баяліся тыфу і тады хутчэй пакідалі хату, не паспявалі нават абрабаваць нас, забраўшы харчы. І ўжо не будзе страшна спаць, страшна выходзіць на вуліцу, страшна жыць у вёсцы, калі на амаль сто гаспадарак заставалася толькі трое мужчынаў: адзін калека і двое старых. Але мы ведалі, што тут, сярод сваіх, усё ж лягчэй было выжываць, чым вам, нашым бацькам і братам, нашым каханым там, на фронце, дзе кожны дзень смерць глядзіць у вочы, не шкадуючы, забірае жыцці ў гэтай страшэннай бойні без разбору…

Кожную хвіліну таго першага мірнага вечара я была агорнута ўспамінамі аб табе. Набраўшы з рэчкі вады для паліву агарода, затрымалася. Цёплы ветрык ласкава кранаў мае валасы і я нібы адчула дотык тваёй рукі, як быццам ты і сапраўды падтрымаў мяне на кладцы, як некалі, яшчэ да вайны. Потым бяссонная ноч: я думала





аб тым, што зараз, калі скончылася вайна, будзе лягчэй знайсці ўсіх без вестак прапаўшых. І ты абавязкова знойдзешся. Уяўляла, як выбяжыць насустрач твая маці, і, павітаўшыся з ёй, ты будзеш вачыма шукаць, дзе ж я. Не саромечыся, моцна прытуліш мяне да сябе і я зноў адчую пах тваёй скуры, твайго адзення, тваіх валасоў – твой пах. Я памятаю яго да гэтых часоў, ён непараўнальны, ён так і існуе ва ўсёй маёй істоце пахам адзіна каханага майго жаніха, назаўсёды ўсяўладнага гаспадара майго сэрца…

З фронту вярталіся амаль да самай восені. На некаторых прыходзілі запозненыя пахавальныя. Што рабіць – вайна за дзень спыніцца не можа. А тых, хто не вярнуўся і не лічыўся загінуўшым, працягвалі чакаць, услухваючыся доўгімі бяссоннымі начамі да кожнага шоргату ў двары. Тату з братам мы дачакаліся, а вось дзядзьку Хведара – не. Перад Новым годам цётка Ганна атрымала пісьмо з пахавальнай на мужа і падзякай ад камандавання. Так цяжка было ўсведамляць, што маленькі Іван, якога Ганна нарадзіла ў склепе, калі мы хаваліся ў час бамбёжкі, так ніколі і не ўбачыць бацьку, не адчуе моц і пяшчоту бацькоўскіх рук. А ён, на радасць усім, рос паслухмяным, быў матчынай надзеяй. Ажаніўся на дзяўчыне з суседняй вёскі, сына нарадзілі. Выгадаваць яго не паспеў – моцна захварэў, вылячыць урачы не далі рады. Сказалі Ганне, што сэрца ў Івана слабое было, хутка знасілася, вядома ж – дзіця вайны.

Потым, ужо наступнай вясной, амаль паўгады я жыла ў нашай сваячкі ў горадзе, вучылася на краўчыху. Дзень праходзіў у клопатах, а вечарам было вельмі цяжка і адзінока. Два разы на тыдзень на станцыю прыходзілі цягнікі з Брэста – я бегала іх страчаць: сэрца калацілася, здаецца, выскоквала з грудзей, калі цягнік спыняўся і з вагонаў пачыналі выходзіць вайскоўцы. У кожным з іх я хацела бачыць цябе. Іншым разам выносілі на насілках хворых і параненых, іх з вайсковых шпіталяў развозілі на далечванне па месцы жыхарства. Прыбіралася я перад гэтым рэгулярным наведваннем вакзала, як на спатканне. Вельмі хвалявалася, ці зможаш ты мяне пазнаць, калі раптам прыедзеш, ужо ж болей за чатыры гады мінула. Ну, а цябе я б здолела пазнаць нават ноччу, не трэба было б і ўглядвацца, бо адчула б сэрцам. Але ні адзін цягнік цябе не прывёз…

Час змяняў аблічча вёскі. Хтосьці пабудаваў новую хату, хтосьці рамантаваў старую. Усім мірам дапамагалі тым, хто застаўся без гаспадароў. Працавалі, спраўлялі вяселлі, нараджаліся дзеці. Пакрыху вайна адыходзіла, меней хварэлі, гаіліся раны на целе. Ды толькі не загойваліся яны ў сэрцах…

Ведаеш, я таксама магла выйсці замуж, да мяне сватаўся Косця з суседняй вёскі, вы з ім у адным класе вучыліся. Ён пад Варшавай быў паранены ў нагу. Доўга лячыўся, але, дзякуй Богу, раны зацягнуліся, толькі накульгвае трохі. Хлопец працавіты і памяркоўны па характару. Але ці магла я здрадзіць табе? Адмовіла яму, канешне, прасіла зразумець і не гневацца. Чакаў ён на мяне яшчэ тры гады, пазней ажаніўся на маладой суседцы.

Што гэта я зноў не зусім пра тое… Колькі гадоў на свеце жыву, а так і не навучылася, не саромечыся, распавядаць пра свае пачуцці. Ды і дзе знайсці тыя адпаведныя словы, каб было зразумела, што адчувала маё сэрца, калі я, устаўшы з жаўрукамі, колькі гадоў бягучы па лясной сцяжынцы на работу, кожным разам датыкалася да ствала нашай бярозкі, ля якой мы паабяцалі адзін аднаму быць вернымі назаўсёды? А куды было падзецца вёснамі ад пахаў чаромхі і бэзу – напаміну аб вялізным букеце, які ты, не саромечыся бацькоў, прынёс да нас у хату нядзельным ранкам. Я і зараз памятаю, як свяціліся і пераліваліся блакітам твае шчаслівыя вочы, калі працягнуў гэты букет мне. Часам мае дзявочыя мары пераносілі мяне на бераг возера, якое лічылася бяздонным і вельмі небяспечным, ды толькі не для цябе. Спакойны і прыгожы, ты падплываў да лілеяў і, даўшы нырца, вырываў іх з доўгімі сцяблінамі, каб падараваць мне. Кожная клетачка маёй істоты напаўнялася адчуваннем прыўзнятасці і шчаслівай удзячнасці за гэтыя цудоўныя і непасрэдныя знакі першага юнацкага кахання…

Вырасла мая малодшая сястра, выйшла замуж і паехала жыць да мужа ў горад. Потым памерла мама, яна амаль пяць гадоў вельмі цяжка хварэла. Мы доўга жылі з татам у вялікай хаце ўдваіх. А калі падраслі пляменнікі і сталі прыязджаць на канікулы, стала весялей. Я часта вадзіла іх па нашых сцежках, уяўляючы, як бы мы з табой радаваліся б сваім дзецям. Памятаеш – мы марылі, што ў нас абавязкова народзяцца двое хлапчукоў і дзве дзяўчынкі, вось толькі імёны так і не паспелі прыдумаць, перашкодзіла вайна. Не нарадзіліся і ўжо ніколі не народзяцца...





Аднойчы, калі мне было ўжо сорак гадоў, я трапіла ў навальніцу. Здавалася, што нястрымная маланка разрывае неба на часткі. Спачатку траскучы, а потым раскацісты і доўгі гром, як быццам, звісаў з неба над усім неабсяжным і сцямнеўшым наваколлем. Я стаяла адна на аселіцы, дзе да дажджу паспела зламыць сена ў капну, і… раптам наўзрыд заплакала, загаласіла – ад страху перад навальніцай і перад надыходзячай восенню жыцця, ад бездапаможнасці перад праявамі прыроды і лёсу. Мне было няўтульна і адзінока сярод гэтах магутных струменяў вады, якія змешваліся з салёнымі ручаінамі з маіх стомленых вачэй…

Хмары сплывалі з неба і знікалі за лесам так жа хутка, як і насоўваліся. Павіднела. З мокрымі валасамі, у наўшчэнт прамоклай адзежы я подбегам спяшалася дамоў. Насустрач, весела ўскокваючы ў цёплыя лужыны, несліся навыперадкі мае пляменнікі: Васілёк і Пеця. Перабіваючы адзін аднаго, распавялі, што хваляваліся за мяне, не разумеючы, чаму не сышла з аселіцы да дажджу. «Нічога з гэтым сенам не зрабілася б. Вось дзед канаплянку сказаў хутчэй табе занесці, ахіліся, калі ласка, наша цётачка, каб не прастудзілася,» – тараторылі яны. Ведаеш, гэтыя простыя дзіцячыя словы нібы падштурхнулі мяне зірнуць на жыццё з іншага боку. Стала зразумела і ад гэтага спакойна, што ў мяне ёсць шмат здабыткаў, якім трэба радавацца кожную хвіліну і дзякаваць Богу за ўсё. І зараз я добра ведаю, што самы вялікі здабытак для ўсіх на нашай зямлі – гэта мір і наваколле, напоўненае смехам дзяцей, ранішнімі спевамі птушак, чароўным пералівам званоў і грукатам навальніцы. Плакаць нельга, трэба ўсё рабіць дзеля таго, каб Васіль з Пятром добра разумелі, чым давялося людзям ахвяраваць дзеля Перамогі, і дбайна сцераглі наш далікатны спакой. І ніхто не зможа яго парушыць, калі мы будзем памятаць пра тых, хто не вярнуўся з вайны, дапамагаць пакалечаным, шанаваць пераможцаў, шкадаваць ненароджаных дзяцей…

Пакуль ішлі з хлопцамі дамоў, напланавалі, што заўтра з’ездзім ў горад: бацькоў наведаем і купім дзядулі новую сарочку, трэба радаваць родных. Як і належыць быць пасля навальніцы – на небе, ад-

мытым летнім дажджом, зазіхацела, запераліваласся сваімі непаўторнымі колерамі вясёлка…

Вось і пагутарылі, паўспаміналі. Перад вачамі твая незабыўная ўсмешка. Дзякуй табе за мір, за прыгажосць пачуццяў, за моц кахання, запаліўшага ў маім сэрцы непагаснае святло надзеі. Мы абавязкова сустрэнемся – праўда, не ведаю, дзе і калі…

**Аддай мне твой боль**
*(Апавяданне)*

Лютаўскія дзянёчкі для вясковай дзетвары, не гледзячы на неласкавую назву па месяцу, сталі больш лагоднымі: сонейка надаўжэй высоўваецца са свайго спальнага пакою, вышэй узбіраецца на неба, і хоць не зусім адкрыта глядзіць на ўсіх заспанымі за зіму вачамі, а ўсё ж весялей робіцца праводзіць вольны час у забавах. Так прыемна, стоячы на прамых нагах, хутка і па многу разоў злятаць па бліскучай ледзяной дарожцы-коўзанцы, якая, нібы стужка, цягнецца з самай вяршыні насыпу ля моста аж да сярэдзіны рэчкі, выгнуўшыся ў самым канцы невялікім гарбочкам. Патрабуецца добры спрыт, каб не скончыць спуск балючым прызямленнем, самі ведаеце, якім месцам цела. Таму так коўзацца адважваліся не ўсе, большасць малых з'язджала на кукішках: калі і падкіне напрыканцы, то падаць зусім не страшна – проста завалішся на бок. Дзеля большай весялосці і надзейнасці часта з'язджалі ланцужком, прысеўшы і трымаючыся адзін за аднаго, нібы вагоны ў цягніку. І калі на небе з'яўлялася сонейка, то гульня дзятву добра ўгравала і адважныя старэйшыя дзеці расшпільвалі, ці нават зусім здымалі верхнюю адзежу, узяўшы, канешне, абяцанку з малых, што гэтая акалічнасць не дойдзе да бацькоў.

Сёння была нядзелька. Пасля баршчу са смачнай квашанай капустай, умлеўшай ў печы разам са свіной рабрынай, чаму ж і не пабавіць двум братам некаторы час на горцы. Дзед, папалуднаўшы, няспешна патрухаў да сваёй сястры, бабулі Зосі, аж на другі канец вёскі, астатнія дарослыя, хто дзе, прыладзіліся пакімарыць, на тое і нядзелька. Пад вечар Міколу, старэйшага брата, чакаў адправунак на кані ў суседнюю вёску, каб заўтра ў тамашняй школе пачаць чарговы вучэбны тыдзень. Ды тое ж пад вечар, а зараз – рабі, што хочаш. Вырашылі ўзяць з сабой і санкі і канькі, каб атрымаць ад цудоўнага зімняга дзянёчка поўную асалоду.





Розніца ва ўзросце братоў была ў тры з паловай гады, але гэтая акалічнасць не перашкаджала ім добра сябраваць, яны ўвесь час былі побач, быццам звязаныя нейкай нябачнай ніткай. Мікола, русавалосы і танклявы падлетак, быў разважлівы, добра вучыўся, любіў шмат чытаць, ведаў напамяць мноства вершаў на беларускай і рускаў мовах і нават сам складаў радкі святочных віншаванняў. А яшчэ ён вельмі здатна ганяў на каньках, выпісваючы мудрагелістыя фігуры на расчышчаным ад снегу невялікім ледзяным квадраце рэчкі. Усё гэта рабіла яго аўтарытэт перад братам і суседскімі хлопцамі непарушальным. Янка ж ужо з малога быў вельмі жвавым і ў рухах, і ў словах, умеў па-дзіцячы пажартаваць. Мажнейшы за многіх сваіх аднагодкаў, кучаравы і круглашчокі, колькі разоў за дзень «аблятаў» вёску на сваіх быстраходных нагах. Паспяваў праведаць і прадзеда, і бабулю, і іншых сваякоў, паспрабаваўшы ўсялякіх прысмакаў амаль што ў кожнай хаце. Гарэзліваму і кемліваму хлопчыку ўсе былі радыя. Розныя даручэнні ад адных другім ён выконваў заўсёды дасканала і тэрмінова, дзед казаў, што мо і дачакаецца, калі ўнук вывучыцца і стане дзяржаўным чалавекам. Што гэта за з'ява такая – дзяржаўны чалавек, Янка пакуль што зусім не разумеў, але з дзедам пагаджаўся, бо той многа дзе паездзіў за сваё жыццё, шмат розных цікавых здарэнняў распавядаў і ўнукам, і дарослым. Дзеда вельмі паважалі ў вёсцы, за дарадамі да яго звярталіся. «Калі дзед кажа, значыцца буду,» – думаў сабе хлапчук.

Снег, накрыўшы лёд, пераліваўся living рознакаляровымі іскрынкамі, нават балюча было вачам. Колькі радасці прыносіла рэчка, якая, выныраючы з-за лесу, набліжалася да агародаў жыхароў вёскі правым бокам, потым падзяляла вёску на дзве часткі, схаваўшыся натрохі разам з берагамі пад драўляным мостам. Далей, нібы стараючыся выканаць свой абавязак перад усімі сяльчанамі, якісьці кавалак свайго рэчышча зноў вяла ўздоўж сядзібаў, потым паварочвала, хутка мяняючы напрамак, каб урэшце дасягнуць лесу, але ўжо з паўночнага краю вёскі. Апынуўшыся пад аховай прыгажуняў-соснаў, яна станавілася больш глыбокай і юрлівай, падмываючы часам карані і на-

ват вельмі моцных дрэваў. Здаралася, яны ад гэтага страчвалі раўнавагу і падалі, утвараючы кладкі-масты паміж берагамі. Даплывала рэчка да больш магутнай ракі праз два кіламетры ад вёскі і знікала, аддаўшы ёй свае воды разам з усімі асаблівасцямі жыцця вёскі. Дзятва мела ад рэчкі радасць ва ўсе поры года. Зімовыя рачныя забавы мяняліся на вясновыя – рэчка разлівалася, бывала, што і мост ледзьве не зносіла, прыемна было бегаць у ботах па вадзе, якая хвалявалася па ўсёй аселіцы. Летам лавілі рыбу, купаліся, збіралі кветкі і шчаўе на лузе ўздоўж берага…

Усадзіўшы брата на санкі, Мікола хутка даімчаў да моста, вакол якога ўжо кішэла дзетварой: хто з санкамі, хто з лыжамі, хто з канькамі – месца для зімовых прыгодаў хапала ўсім. Нацягаўшыся санкаў наверх насыпу, браты прытаміліся, пасядзелі трохі на пераkладзінах мосту, вырашыўшы, што зараз перайдуць на правы бок, дзе каталіся на каньках. Так і зрабілі. Было вельмі весела: то ганяліся па тры чалавекі ў рад навыперадкі, то, узяўшыся за рукі, утваралі карагод. Вельмі хацелася піць, некаторыя дзеці шукалі далей ад катка маленькія бліскучыя ільдзінкі і лізалі іх, атрымліваючы асвяжальную асалоду. Калі ільдзінка рабілася зусім тоненькай, то яе тады проста клалі ў рот, атрымлівалася талая вада. Усе добра ведалі, што разагрэўшыся, нельга нічога халоднага піць, але кожны раз, падносячы лёд да языка, спадзяваліся, што пакуль трэба будзе праглынаць ваду, яна паспее ў роце нагрэцца і не пашкодзіць горлу. Так, добра нагуляўшыся, забываліся пра небяспеку захварэць, аб чым ні адзін раз папярэджвалі бацькі…

У панядзелак пад вечар за Міколкай у школу прыехаў дзядзька Сяргей. Седзячы ў санках, падварушваючы ўвесь час лейцамі каня, дзядзька вельмі ўстрывожана распавядаў, што ноччу захварэў Янка. Спачатку яму стала вельмі холадна, аж калаціўся ўвесь, захацеў легчы спаць на печы. Але хутка зрабіўся гарачы, прама не дакрануцца. Усё прасіў вады, ранкам зрабіўся зусім млявым, нават і піць не можа. Тата доктара прывозіў, той сказаў, што становішча хлопца вельмі сур’ёзнае, застудзіў грудзі. Лекі назначыў, ды пакуль што нічога не дапамагае…

У кухні сабралася амаль што ўся радня. Напружанае прадчуванне надыходу бяды павісла ў паветры. У пакоі былі толькі мама з





бабулямі, дзед, і цётка Алена, малодшая сястра мамы. Бялюткі твар брата быў відаць ужо ад дзвярэй. Кучаравыя валасы прыліпалі да ілба. Перыядычна Янка нібы хацеў штосьці сказаць, варушыў патрэсканымі, спаленымі жарам вуснамі, круціў галавой, узмахваў рукамі, а потым зноў упадаў у забыццё. Амаль суткі хвароба спальвала жывыя сілы дзіцяці. На маму было балюча глядзець. Патухшыя вочы сведчылі аб роспачы, яна ўжо не магла плакаць і толькі час ад часу шаптала малітвы, гледзячы на покуць, дзе віселі іконы. Толькі два гады назад мама страціла шаснаццацігадовую дачку, а мы – сястру, якая не змагла перамагчы дыфтэрыю. І вось новая небяспека навісла над жыццём самага малодшага ў сям’і…

Янка дыхаў часта, часам стагнаў і зацінаў дыханне. Кожнае такое імгненне станавілася гадзінай, бо кожны раз было страшна, каб яно не стала апошнім. Прыйшла суседка, прынесла настой нейкай травы, цётка Алена змочвала ёю сухія губы брата. Уздыхнуўшы, ціха пачала казаць аб тым, што раней у зарэчнай вёсцы жыла бабуля, якая ведала асаблівыя малітвы і травы, некаторых людзей выратоўвала. Але ж гэта было даўно, можа, і няма ўжо яе, старая была, не чуваць больш нідзе пра цуды. Мама схамянулася ў час расповеду суседкі і зноў заціхла, углядаючыся ў твар хворага сына.

Дзед некаторы час пабыў у пакоі, потым выйшаў на вуліцу, ціха зачыніўшы дзверы. Не трацячы час на роздумы, ён запрог каня і рушыў шукаць старую траўніцу. Лясную дарогу адолеў хутка, наблізіўся да ракі. Круты, абрывісты бераг быў небяспечны для спуску. Тады Васіль прывязаў каня да дрэва, перайшоўшы рэчку, пастукаў у акно крайняй хаты зарэчнай вёскі, дапытаўся, дзе шукаць лякарку. Амаль яшчэ тры кіламетры дабіраўся пеша да хаты бабулі, правальваючыся часамі ў глыбокі снег. Гэтай ноччу ён нібы нанова пражываў розныя моманты свайго жыцця, просячы ў думках Божага прабачэння за грахі і дапамогі ўнуку. Толькі б паспець, толькі б дайсці…

Ноч становішча Янкі не аблегчыла. Ён зрабіўся нейкім зусім худым. Здавалася, што за апошнія суткі малы пасталеў на колькі гадоў, зусім не дзіцячымі былі пакуты, якія пакінулі адбітак на яго твары. Мікола цяжка пераносіў хваробу брата: «Можа, нічога такога і не здарылася б, калі б яны не лізалі гэты халодны лёд. Янка ўсё рабіў

хутка, мо і не паспявалі тыя ільдзінкі растаць, глытаў, мабыць, і ваду ледзяную. Немагчыма цяжка глянуць у вочы маме. Як жа я так загуляўся, забыў пра тое, што адказваю за брата? Колькі разоў мама казала, што трэба быць пільным. Што ж зараз будзе?» Трапяткая дзіцячая душа пакутавала ад адчаю, Мікалай усю ноч прасіў Бога даравацъ усім памылкі і вярнуць здароўе брату.

Неба святлела. Хутка ўжо і ўпраўляць гаспадарку трэба ісці. Усе прысутныя памяталі, што абяцаў зноў заехаць доктар, жанчыны заставаліся яго чакаць, не хацелі пакідаць маму. Мужчыны пачалі апранацца. Адчыніліся дзверы. На парозе стаяў дзед, ніхто не ведаў, дзе ён быў, але па ўсім было відаць, што Васіль моцна стомлены: з расчырванелым тварам ён павольна пераступіў парог, дрыжачай рукой ніяк не мог націснуць на клямку, каб шчыльна зачыніць дзверы. Адразу накіраваўся ў пакой да Янкавага ложка. Скінуўшы кажух, апусціў яго на падлогу. Потым зняў цёплы швэдар, кінуў яго на кажух. Ніхто не разумеў, што ён надумаў рабіць, але было зразумела, што адбываецца штосьці важнае, вядомае толькі старому. Зняўшы нацельную кашулю, Васіль адкінуў тоўстую радзюжку і вачамі папрасіў маму дапамагчы. Стаўшы на калені, ён праз хвіліну прыўзняў на руках непрытомнага ўнука, апранутага ў яго кашулю. Невыносна цяжка было бачыць, як дрыжалі стомленыя рукі Васіля, усё мацней прыціскаючы да грудзей хворага ўнука. «Аддай мне твой боль,» – раз за разам шапталі дзедавы вусны…

Пад вечар Янка стаў дыхаць цішэй, не кідаўся на ложку. «Ён проста спіць,» – раптам прашаптала мама, паглядзеўшы на ўсіх запаўшымі стомленымі вачыма, у якіх з'явіўся маленькі агеньчык надзеі. Зноў прыехаў доктар. Агледзеўшы Янку сказаў, што хіба ўжо хвароба павярнула на папраўку. Толькі праз тры тыдні хлопчык выйшаў на вуліцу, каб падыхаць свежым паветрам вясны, якая стукалася ўжо ў вокны дзённай кропеллю.

І тады дзед здолеў расказаць, як ноччу ён паехаў на кані шукаць лякарку, праз якую казала суседка. Зусім старэнькая бабулька ўжо не бачыла нічога. Паслухаўшы пра хваробу ўнука шкадавала, што ўжо колькі гадоў не мае сілы збіраць свежыя травы для прыгатавання лекаў, а старыя можа і не змогуць дапамагчы. Але параіла прасіць у Бога дапамогі і моцна ў яе верыць. Потым сказала: «У жылах унука





цячэ твая кроў. Апрані на яго сваю кашулю, аддай малому ўсю моц сваіх жыццёвых сілаў, здолей пажадаць гэтага мацней за ўсё ў тваім жыцці. Можа, і дапаможаш. Трымайся, чалавеча, няма нічога больш вартага на гэтым свеце, чым магчымасць ахвяры дзеля самога жыцця». Дзед усё і зрабіў, як казала старая…

У мамы і ў бабулі доўга сядзеў у сэрцы страх: баяліся, каб дзед таксама не захварэў. Ды лёс вырашыў узнагародзіць яго – пражыў дзед амаль дзевяноста тры гады, не хварэў, проста аднойчы заснуў і больш не прачнуўся.

А Янка зараз сам дзед чатырох унукаў, стаў-такі дзяржаўным чалавекам, многім юнакам даў добрую навуку жыцця. Гэтай восенню восемдзесят пяты год нараджэння сустрэў. І кожным разам у гэты прыемны дзень мы слухаем яго расповед пра дзеда Васіля, пра жыццё ў роднай вёсцы, пра вялікую моц самага святога пачуцця сярод людзей. Таму мы з дзяцінства ведаем, што любоў перамагае ўсё, нават страшэнныя хваробы. Дзед Васіль пра гэта добра ведаў і казаў – значыць, так і ёсць на самай справе. Толькі заўсёды пра гэтую акалічнасць памятаць трэба і карыстацца часцей. Любоў – яна жыве там, дзе на яе не забываюцца, і, карыстаючыся, вельмі шануюць. Святая праўда…

## ВЕРА ЛЕБЕДЕВСКАЯ

*Родилась 31 октября 1976 года в г. Пинске Брестской области. В настоящее время живет и работает в Минске. Первое стихотворение написала еще в школе. В 2010 году впервые взяла в руки гитару и запела, с тех пор авторская песня стала главным увлечением.*

*Певица, поэтесса, музыкант. Является дипломантом и лауреатом многих белорусских фестивалей. В 2015 году выпустила музыкальный диск авторских песен «Оба правы» (музыка и исполнение – В. Лебедевская, стихи – В. Лебедевская, Т. Шеина, О. Норина, И. Луцюк, Л. Кубишек).*

### Песня о несбывшейся мечте

Тружусь который год, испытывая стрессы, –
Бумаги, цифры и балансовый отчёт…
И я решила: а пойду-ка в стюардессы,
Пусть мне подарит крылья чудо-самолёт.

Взглянула в зеркало – прекрасна, это ясно,
Со мною не сравниться даже топ-модель.
А мне летать поручат только бизнес-классом
И форму синюю подарят от Шанель.

Какая грудь – пойди найди во всей округе,
А коль увидишь – отвести не сможешь глаз.
А мне сказала моя лучшая подруга,
Что я похожа на шикарный контрабас.

С трудом в костюм любимый втиснула фигуру,
Начёс, помада, тени, каблуки… Вперёд!
Зашла на фирму. Мне сказали: «Что вы, дура?
Вас не поднимет в жизни в воздух самолёт!»

Ну, до чего ж не романтичные натуры!
Мне в небо из-за них взлететь не суждено!





А у меня вполне спортивная фигура –
Почти такая же, как у борца сумо!

### Ведьма

Я босыми ногами по острым камням
Шла на смерть, задыхаясь от боли.
И за что же вы так не взлюбили меня,
Обвинив в колдовстве и крамоле?

И гудела толпа, и летели вослед
Комья грязи, угрозы, проклятья…
Я пыталась увидеть сквозь слезы рассвет
И согреться в изорванном платье.

Грязный локон когда-то был рыжим, как медь,
И веснушчаты девичьи плечи…
Ах, как жаль, что судьба  мне сегодня сгореть,
Проклиная весь род человечий.

Пусть рождаются в вашем роду горбуны,
Злые карлики, рыжие дети,
Чтобы помнили, как на костре сожжены
Были сестры мои на рассвете.

Что рыдаешь, палач? Лишь тебе одному
Я позволю уйти от проклятий.
Сделай так, чтобы я задохнулась в дыму,
Здесь сырые дрова очень кстати.

Не изведаю боли в объятьях огня,
Не познаю терзающей муки.
Милосердный палач, полюбивший меня,
Поджигай! Я готова к разлуке.

**История одного объявления**

«Возьмите душу напрокат!» –
Висит в подъезде объявление.
И все соседи говорят:
– Какое странное явление!

Нет, верно, кто-то пошутил,
Конечно, Вася из двенадцатой!
Ведь он неделю страшно пил…
Или Семён из восемнадцатой?

К нему намедни на такси,
Как будто леди из Италии,
Присунулась «мадам-мерси»
С огромной частью ниже талии!

– А я уверена, Степан! –
Вопит Игнатьевна с начёсиком,–
Он тоже ведь бывает пьян! –
И изогнула бровь вопросиком.

– Нет, не Степан! Да это бред!
Он на моря уехал с Лидою! –
Сказал плюгавенький сосед
С едва заметною обидою.

– Что расшумелись? Дело вам? –
А это дворник кинул реплику, –
Идите, что ли, по домам!
Смотрите глупости по телеку!

И по квартирам разошлись,
Так и не вычислив виновника,
Как будто змеи расползлись.
Осталась лишь жена полковника.





Своею пухлою рукой,
Чтобы исправить положение
И всем вернуть былой покой,
Сорвать решила объявление.

И всё – исчерпан инцидент,
Покой укравший на мгновение,
Но есть один еще момент:
Моё висело объявление…

***

В нашем доме пахнет кофе
и предчувствием разлуки:
У любви, как оказалось, вышли сроки.
Жаль, но мы порой бываем
безнадёжно близоруки,
Равнодушны, и увы, опять жестоки.

Горечь прячу за улыбкой,
за сарказмом боль скрывая,
Говорю, не умолкая... нервы, сдали.
Как случилось так, что двое,
быть счастливыми желая,
На любовь друг друга словно обокрали?

Самолёт по глади неба вышьет
путь нечёткой строчкой,
Разделяя нашу быль на две неравных.
Мы теперь по руслу жизни
будем плыть по одиночке,
Ты и я. В дырявых лодках. Оба правы.

**Чёрно-белая песня**

В чёрно-белом мире,
В сумрачной квартире,
Полной нецветного бытия,
Связаны судьбою
Терпкой нелюбовью
Неродные люди – ты и я.

Там, за окном квартиры нашей,
Гораздо ярче мир и краше,
И сладко манят запахи весны.
А нам удобно во вселенной –
Привычной, серой, неизменной.
Лишь красочные ночью снятся сны.

Что-то держит рядом –
Руки, губы, взгляды.
Может, шёлк постельного белья,
Сладкий черный кофе,
Нелюбимый профиль,
Горечь нецветного бытия?

Там, за окном квартиры нашей,
Гораздо ярче мир и краше,
И сладко манят запахи весны.
А мы боимся оторваться
И с жизнью нецветной расстаться,
Но красочные ночью видим сны...





***ИВАН ЛОСИКОВ***

*Родился 20 апреля 1937 года в поселке Слава Карповского сельсовета Лоевского района Гомельской области. В настоящее время живет и работает в Гомеле. Член Союза писателей Беларуси с 2005 года. Автор книг «Человек из прошлого» (1999 г.), «Весенние грёзы» (2002 г.), «Эхо детства» (2004 г.), «Повесть о влюбленных» (2004 г.), «Два имени» (2006 г.), «Рассказы о прошедшем времени» (2006 г.), «На стыке веков» (2008 г.), «Мой путь в литературу» (2009 г.)*

**Наш спектакль продолжается...**
*(Отрывок из повести)*

**1.**

Идем по территории Большого Кавказского заповедника.

Второй день стоит замечательная солнечная погода с редкой облачностью. Температура воздуха держится такая, что лучшей и пожелать нельзя: нам ни холодно, ни жарко. Инструктор говорит, что в середине сентября здесь, в горах, на подступе к главному Кавказскому хребту, чаще всего и устанавливается такая благоприятная для туристических походов погода. И она должна продержаться еще несколько дней, хотя на перевале, в приюте «Холодный», где мы должны будем ночевать на следующий день, температура воздуха понизится даже при такой солнечной погоде. Но эта ночёвка произойдет у нас в приюте, в изумительном по красоте месте.

До зимних холодов в этом приюте будут жить и вести научные работы зоологи из Ленинграда*. Они почти что всегда удивляют наших туристов какой-нибудь чертовщиной. Что они придумают на этот раз, при нашей встрече с ними, одному Богу известно.

– Это будет так здорово! – воскликнула Елена, вслушиваясь в доверительную беседу инструктора с нами. – Альберт Расулович, –

* Ныне Санкт-Петербург. Действие повести происходит в 70-е годы XX столетия.

